14 ліпеня 2017 | № 27 (541)

Новы час

novychas.by

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144





Манеты «панскага» часу
стар. 10

5 «ЭМІГРАЦЫЯ — ГЭТА НАША МЯККАЯ СІЛА»

Напярэдадні VII З'езду беларусаў свету, які ЗБС «Бацькаўшчына» праводзіць 15-16 ліпеня, мы вырашылі пагутарыць з кіраўніком арганізацыі Аленай Макоўскай

6–7 ЯК МЯНЕ ДА «НОВАГА ІНТЭРНЭТА» РЫХТАВАЛІ

Фантазія прадпрымальнікаў, якія навязваюць свае паслугі, не ведае межаў. Зараз яны ўзяліся апрацоўваць уладальнікаў хатніх кампутараў

9 ВА УКРАІНУ ПА ВІЗАХ

11 ТАЯМНІЦЫ БРАТОЎ БЕЛЬСКІХ









# Баласт ці рэзерв нацыі?

**Перш чым стасавацца з дыяспарай, афіцыйнаму Мінску трэба вызначыцца, хто ён сам**

Сяргей ПУЛЬША

Усе краіны свету, за выключэннем хіба Беларусі, вельмі шмат увагі надаюць сваім суайчыннікам за мяжой. Бо дыяспара — гэта рэзерв нацыі. Ва ўсіх сэнсах: эканамічным, інтэлектуальным, палітычным і іншых.

Дыяспара можа выступаць лабістам інтарэсаў метраполіі і шмат чым яшчэ. Нездарма адна наша суседка прыдумала «карту паляка», а другая ўсур'ёз задумваецца пра тое, каб раздаваць свае пашпарты ўсім, хто нарадзіўся ці з'яўляецца нашчадкам жыхароў былога СССР.

Пра інтэлектуальны складнік і казаць не варта. Усе мы на пачатку 1990-х са здзіўленнем адкрывалі для сябе літаратуру эміграцыі, а цяпер за мяжой працуе найбольш актыўная і дасведчаная частка Беларусі: людзі, лёгкія на пад'ём, з веданнем моваў і навучаныя ў сусветна вядомых універсітэтах.

Не трэба думаць, што дыяспара — нейкая «купка адшчапенцаў», якія змянілі Радзіму на прыгожае жыццё. Па-першае, ім тое «прыгожае жыццё» каштавала немалых высілкаў. Па-другое, беларусаў за мяжой не так ужо і мала. Ды што там казаць: у мяне самога сяброў у Беларусі значна менш, чым сяброў за яе межамі. Усе разбегліся пад ціскам абставінаў — хто на Захад, хто на Усход, хто на Поўдзень, ва Украіну, куды, нават нягледзячы на вайну, апошнім часам ідзе проста паломніцтва беларусаў. Іншым разам міжволі нават узнікае пытанне: «А што я тут раблю?».

І вось парадокс: большасць з гэтых людзей у жыцці арганізаванай дыяспары ўдзелу не прымаюць. Хаця, здавалася б, мусілі — тут, у Беларусі, яны мелі актыўную грамадзянскую пазіцыю. «Зубр», «Хартыя'97», «Еўрапейская Беларусь», сябры БНФ, АГП і іншых партыйных груповак... За межамі краіны яны сваю пазіцыю нібыта згубілі і заняліся асабістымі, прыватнымі справамі. Мабыць, за куфлем піва ці чаго мацнейшага згадваюць, як раскідвалі ўлёткі з заклікамі на мітынгі, вывешвалі на вуліцах бел-чырвона-белыя сцягі ці малявалі графіці «Жыве Беларусь!»: «Эх, быў час, была эпоха!».

Я цалкам разумею, чаму так адбываецца. Эмігранты «старой хвалі», тыя, каго мы цяпер вывучаем у падручніках па фізіцы, касманаўтыцы, геаграфіі і літаратуры, нават на чужыне адчуваюць сябе часткаю Беларусі. Так, яны таксама вымушаныя былі эміграваць — але ў іх душах заставалася тое, пра што пафасна кажуць «патрыятызм». Яны былі выхаваныя такім чынам: нават у часы СССР іх радзімай усё роўна была Беларусь.

«Новыя хвалі эміграцыі» таго патрыятызму не маюць. Дый адкуль? Тыя, хто з'ехаў падчас развалу СССР, не ўсведамлялі Беларусь асобнай краінай. Тыя, хто з'ехаў пазней, альбо ехалі па лепшую долю, альбо былі за мяжу «палітычна выціснутыя».

Апошнія, прайшоўшы праз турмы і спецпрыёмнікі, выдатна ўсведамляюць розніцу паміж Беларуссю і ўладай краіны. Яны лічаць агідным стасавацца, напрыклад, з прадстаўнікамі беларускіх амбасадаў, трымаючы іх за «памагатых рэжыму» (што праўда). Таго самага рэжыму, які, як найменш, падазраецца ў знішчэнні іх сяброў (так, мы не забыліся пра Захаранку, Красоўскага, Ганчара, Завадскага, загадкавыя смерці Карпенкі і Бябеніна). Гэтыя людзі ствараюць праекты альтэрнатыўнага развіцця Беларусі і стаяць у пікетах ля беларускіх дыппрадстаўніцтваў і будынкаў міжнародных арганізацый, калі туды прыязджаюць дэлегацыі афіцыйнага Мінска. Але, каб яны аб'ядноўваліся ў моцныя суполкі, не чуваць.





**Дзяржава страціла вялікую частку эмігрантаў, для якіх «беларус» цяпер — не каштоўнасць, а канстатацыя нацыянальнасці**

Іншая і большая частка — тыя, хто з'ехаў у пошуках заможнага жыцця — проста не могуць ўсвядоміць сябе часткаю Беларусі. Дый як яны могуць гэта зрабіць? Для гэтага — іх усведамлення — патрэбныя высілкі, найперш дзяржавы. А дзяржава пра гэта мала клапацілася, калі не казаць, што не клапацілася зусім. Беларусаў абзывалі ці то «часткаю рускага народа», ці то «рускімі са знакам якасці», ці то яшчэ нейкай трасцай — абы не беларусамі. Стваралі, ды не стварылі нейкую асаблівую «беларускую ідэалогію», у той жа час падкрэсліваючы «непарыўную сувязь беларусаў і рускіх»... Зразумела, «у цені старэйшага брата» немагчымая ні ўласная ідэалогія, ні патрыятызм.

Дзяржава страціла амаль чвэрць стагоддзя на незразумелыя гульні з самаідэнтыфікацыяй і толькі-толькі пачынае разумець каштоўнасць незалежнасці. Толькі цяпер, квола, пакрысе, робяцца першыя нават не крокі, а погляды ў бок менавіта беларускай гісторыі: Полацкага княства, ВКЛ, БНР — у спробе намацаць тую глебу для беларускага патрыятызму і беларускай нацыянальнай ідэі. І таму страціла вялікую частку эмігрантаў, для якіх «беларус» цяпер — не каштоўнасць, а канстатацыя нацыянальнасці. І нічога больш.

Афіцыйны Мінск не можа і не зможа выбудаваць адносіны з дыяспарай, пакуль не вызначыцца, што ён сам такое: самастойная незалежная дзяржава ці «малодшая сястра Расіі». Калі першае — шанец ёсць. Калі другое — дык дыяспара і не патрэбная...

# Якія заробкі на самай справе

Канстанцін ПАХОЛЬЧЫК

**Колькі ў рэальнасці атрымліваюць на заводах, дзе заявілі пра сярэдні заробак у 500 долараў?**

У канцы чэрвеня ў Мінпраме заявілі, што на некалькіх буйных прадпрыемствах сярэдняя зарплата перавысіла мяжу ў 1000 рублёў. «Салідарнасць» праверыла інфармацыю, паспрабаваўшы знайсці вакансіі з такімі заробкамі.

### ААТ «Амкадор»

Вакансіі гэтага прадпрыемства ў базе Упраўлення занятасці насельніцтва Камітэта па працы, занятасці і сацыяльнай абароне Мінгарвыканкама ўтрымліваюць прапановы па заробках далёка не ў 500 долараў.

Токару-рэвальвершчыку (4-5 разраду) і шліфоўшчыку абяцаюць 600 рублёў. Токару 5-6 разраду — 800. Майстру ўчастка плаціць 1000 рублёў таксама не гатовыя — абяцаюць тыя ж 800.

### СП ЗАТ «Юнісон»

Вакансій з гэтага прадпрыемства няшмат. На Работа.tut.by можна знайсці ўсяго дзве. Не шараговаму работніку, а майстру змены там прапануюць 870 рублёў. Крыху больш можа атрымаць сістэмны адміністратар — 900. Гэта не апошнія пасады на прадпрыемстве, але, як бачым, і тут на зарплату ў 1000 рублёў разлічваць не даводзіцца.

### БелАЗ

У агульнарэспубліканскім банку вакансій удалося знайсці месцы з абяцаннем зарплаты ў 1000 рублёў. Электразваршчыкам на аўтаматычных і паўаўтаматычных машынах 4-5 разраду гатовыя плаціць у Жодзіне 1018 рублёў. А слесарам-электрамантажнікам абяцаюць 969 рублёў.

Але хапае на БелАЗе вакансій і з нашмат меншай аплатай. Да прыкладу, машыніст крана 5-га разраду можа разлічваць там на заробак у 678 рублёў.

### МТЗ

Пра тое, што сярэдні заробак на вытворчасці Мінскага трактарнага завода перавышае 1000 рублёў, заяўляў у маі гендырэктар МТЗ Фёдар Дамаценка.

Але чамусьці ў базе Упраўлення занятасці насельніцтва Камітэта па працы, занятасці і сацыяльнай абароне Мінгарвыканкама вакансіі ўтрымліваюць іншыя звесткі па заробках. Аператар станкоў з праграмным кіраваннем можа разлічваць на 500 рублёў, а машыніст крана — на 600.

Высновa, якая напрошваецца пасля вывучэння банкаў вакансій, несуцяшальная. Калі на вышэйзгаданых прадпрыемствах сапраўды дасягнулі планкі сярэдняй зарплаты ў 500 долараў, то ў цэлым гэта адбылося, верагодна, за кошт росту даходаў кіраўніцтва.

**gazetaby.com, пераклад НЧ**

# «За адсутнасцю складу злачынства...»

**Дакумент з такой фармулёўкай атрымала з міжраённага аддзела Следчага камітэта Брэста Таццяна Мельнічук, маці загінулага пры нявысветленых абставінах Андрэя Тарасенкі.**

Такім чынам, ёй было адмоўлена ва ўзбуджэнні крымінальнай справы па факце смерці яе 32-гадовага сына ў красавіку 2017 года.

Па інфармацыі «Берасцейскай Вясны», 23 красавіка Андрэй Тарасенка быў затрыманы супрацоўнікамі каля бара «На Ясеневай» і дастаўлены ў апорны пункт міліцыі на вуліцы Луцкай. Туды да яго была выкліканая машына хуткай дапамогі, яго адвезлі ў аддзяленне траўматалогіі ЦГБ, адкуль ён самастойна сышоў, адмовіўшыся ад шпіталізацыі. Літаральна на наступны дзень Андрэй пачаў вельмі дрэнна пачувацца, зноў была выкліканая хуткая дапамога, але 32-гадовы бацька двух дзяцей памёр у рэанімацыі брэсцкай бальніцы хуткай дапамогі 29 красавіка…

Згодна з афіцыйнымі паперамі, Тарасенка памёр ад злоўжывання алкаголем і гнойнай пнеўманіі. Але ёсць сведчанне лекаркі хуткай дапамогі, якая забірала Андрэя з хаты, пра тое, што на ім былі сляды моцнага збіцця за некалькі дзён да таго. Звесткі пра гэта ёсць таксама ў выніках судова-медыцынскай экспертызы, якую рабілі больш за месяц.

Таксама месяц праводзіў праверку Следчы камітэт у асобе следчага Дзмітрыя Чылікіна. І вось нарэшце вынік «праверкі».

У Таццяны Мельнічук засталося вельмі шмат пытанняў: хто збіў яе сына, ці была бойка ўвогуле, што здарылася ў той вечар у бары альбо побач з ім, што адбывалася ў апорным пункце, навошта міліцыя знішчыла запіс вонкавай камеры відэаназірання каля бара?

Не пагадзіўшыся з пастановай следчых, 10 ліпеня Таццяна Мельнічук аднесла заяву ў пракуратуру горада аб тым, што катэгарычна не згодная з вынікамі праверкі, якую яна называе проста здзекамі, і просіць правесці дадатковую праверку.

**spring96.org**

# Ва ўзбуджэнні справы супраць АМАП адмоўлена

Жанна ГЕМБІЦКАЯ

**Следчы камітэт Першамайскага раёна Мінска адмовіў ва ўзбуджэнні крымінальнай справы па факце збіцця 25 сакавіка Мікалая Дзядка супрацоўнікамі АМАП.**

Нагадаем, экс-палітвязень і сталы аўтар «Новага часу» Мікалай Дзядок быў затрыманы і збіты падчас Дня Волі, яго забралі па хуткай з пастарунку. Паводле медыцынскага заключэння, ён атрымаў закрытую ЧМТ і чатыры дні правёў у шпіталі. Адтуль яго павезлі ў суд Партызанскага раёна, дзе і прыгаварылі да 10 сутак арышту.

Мікалай накіраваў у СК скаргу на дзеянні супрацоўнікаў сілавых структур з патрабаваннем завесці супраць іх крымінальную справу.

Як лічыць сам Мікалай Дзядок, гэты адказ быў заканамерны, бо ўлады не здаюць сваіх.

«Яны выдатна разумеюць, што калі цяпер узбудзіць крымінальную справу і пакараць тых АМАПаўцаў, назаўтра такія скаргі пасыплюцца масава, і давядзецца саджаць АМАПаўцаў пачкамі. А гэта моцна падарве лаяльнасць сілавікоў да кіруючай вярхушкі. Таму ўлада і надалей будзе даваць сілавікам загад пакрываць любыя злачынствы «нізоў». Я не думаю, што ў АМАПаўцаў быў спецыяльны загад біць мяне ці яшчэ кагосьці, ды як наймацней. Яны проста дзейнічаюць як прывыклі, гэта людзі, якія паважаюць толькі грубую сілу, азлобленыя, з прамытымі прапагандай мазгамі. Таму выпадкі, падобныя на мой, будуць працягвацца», — падкрэсліў Дзядок.

«Таксама хачу заўважыць, што, канечне, пакольki мы жывём у неправавой дзяржаве, дзе эліты хочуць утрымаць уладу літаральна любымі сродкамі, то спробы абараніць сябе, апелюючы да закону, як правіла, будуць вырачаныя на правал. Гэта як звяртацца да ахоўніка канцлагера з просьбай пра абарону, — адзначыў экс-палітвязень. — Аднак пакуль ёсць магчымасць, я змагаюся і буду змагацца ў тым ліку юрыдычнымі метадамі. На гэта ёсць тры прычыны. Першая: хай не расслабляюцца. Другая: нават адмоўны вынік — гэта таксама вынік. Хай усе бачаць, што закон не дзейнічае, — гэта дэлегітымізуе ўладу. І трэцяя: раней ці пазней гэтая ўлада сыдзе, і ў тых, хто мае ўсе дакументы на руках, будзе рэальны шанец дабіцца кампенсацыі і паспрыяць люстрацыі. Менавіта таму я не пакіну гэта проста так і збіраюся справу аб сваім арышце і збіцці давесці да КПЧ. Дарэчы, гэта будзе ўжо другая мая справа супраць беларускіх уладаў у КПЧ — першая датычыцца майго 5-гадовага турэмнага тэрміну. Калі яны не хочуць лічыцца са сваім жа законам, лічыцца з міжнароднай супольнасцю будуць вымушаныя. Калі не цяпер, то потым».

# Чарговы адлічаны актывіст

**Актывіста «Моладзі БНФ» Мікалая Логвінава адлічылі з Мінскага дзяржаўнага палітэхнічнага каледжа.**

Загад са шматлікімі парушэннямі падпісаў выканаўца абавязкаў дырэктара каледжа В. Буневіч. Пра гэта 11 ліпеня ў twitter паведаміла суполка Задзіночання беларускіх студэнтаў.

Такім чынам, Мікалай Логвінаў папоўніў спіс актывістаў, якія за ўдзел у сакавіцкіх акцыях пратэсту падвергліся рэпрэсіям з боку кіраўніцтва навучальных устаноў і былі адлічаныя.

Мікалай Логвінаў быў затрыманы супрацоўнікамі міліцыі ў Мінску 14 сакавіка разам з Мікітам Краснакуцкім. На актывістаў «Моладзі БНФ» склалі пратаколы адміністрацыйнага правапарушэння па арт. 23.34 ч.1 КаАП — «парушэнне парадку арганізацыі і правядзення масавых мерапрыемстваў» — і адвезлі ў суд Першамайскага раёна Мінска. Суддзя Анастасія Папко пакарала Логвінава штрафам у памеры 5 базавых велічынь.

Нагадваем, на пляцоўцы Change.org размешчаная петыцыя «Дапамажыце беларускім студэнтам аднавіцца ва ўніверсітэтах», якая заклікае да аднаўлення ў беларускіх вну студэнтаў, адлічаных за грамадска-палітычную актыўнасць. Апошнія адлічэнні звязаныя з удзелам студэнтаў у пратэстных акцыях, якія ў лютым і сакавіку 2017 года хвалявалі пракаліцца па Беларусі.

**spring96.org**

# БТР на падворку

**Аляксандр Свідэрскі, чый фамільны дом знаходзіцца ў старым горадзе па вуліцы Валковіча ў Гродне, упэўнены, што на падворку закапаны БТР, бо так казаў бацька, а таму — дзед.**

Свідэрскі разам з сям'ёй з пачатку ліпеня жыве ў новай кватэры на Вішняўцы. Стары родавы дом на вуліцы Валковіча неўзабаве знясуць. Але пакуль будынак стаіць, апошні яго жыхар вырашыў раскрыць таямніцу сваёй сям'і, каб знайсці адказы на хвалюючыя пытанні.

«Свідэрскія ў Гродне былі заўсёды незвычайнымі людзьмі, — распавядае Аляксандр. — Яны былі вядомымі кавалямі. Дом наш на Валковіча, 17 быў пабудаваны ў 1876 годзе, побач з ім паставілі кузню. Ведаю дакладна, што мае прадзед, дзед і бацька былі кавалямі ў гэтым месцы доўгія гады. Некалькі гадоў таму на старую кузню хацелі павесіць шыльду «гісторыка-культурная каштоўнасць», але не зрабілі гэтага. Можа, і да лепшага, бо тады я б, магчыма, і не з'ехаў».

Ля дома і кузні Аляксандр знаходзіў шмат старых падкоў, у адным месцы іх было каля 20. Часта траплялiся манеты, старыя бутэлечкі з этыкеткамі ад нямецкай парфумы, попельніца і многае іншае. Усё, што знаходзіў Аляксандр на сваім участку, — толькі малая частка таго, што можна было знайсці. Ён кажа, што ў агародзе да сёння закапаны нямецкі бронетранспарцёр, які за доўгія гады ніхто так і не здолеў адкапаць.

«Я хачу, каб археолагі абследавалі ўсю тэрыторыю. Тут шмат чаго можна знайсці. Дзед распавядаў майму бацьку, што падчас апошняй вайны каля дома ўпала бомба, ад якой утварылася вялікая варонка. Праз некалькі дзён праз дождж там з'явілася невялікае возера. Некалькі чалавек, у тым ліку мой дзед, зацягнулі ў гэтае возера падбіты нямецкі бронетранспарцёр, які стаяў на нашай вуліцы», — кажа Аляксандр.

Ніхто, акрамя яго, не спрабаваў адкапаць тэхніку. Хлопец капаў сам, падключаў людзей, але больш чым на два метры паглыбіцца не ўдавалася. Ды і раней бабуля не дазваляла лезці ў яе агарод. Цяпер, калі для зносу дома прывязуць тэхніку, Аляксандр хоча, каб тэрыторыю праверылі. А раптам знойдзецца машына — цікавы экспанат для музея?

Сямейны дом Свідэрскіх хутка знясуць і пабудуюць на тым месцы нешта новае. Тады Аляксандр спадзяецца даведацца, ёсць усё ж гэты нямецкі бронетранспарцёр у агародзе ці не. Дарэчы, дамы №21 і №23 на вуліцы Валковіча — таксама фамільныя дамы сям'і Свідэрскіх і таксама неўзабаве пойдуць пад знос.

**Hrodna.life**

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Беларускі серыял працягваецца

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Жыццё ў Беларусі ўсё больш і больш нагадвае мне бразільскія (і не толькі) серыялы. Іх сюжэт просты: героі самі сабе ствараюць праблемы, якія потым геройчна пераадольваюць. Мы займаемся тым самым: разграбаннем праблемаў, якія самі ж і стварылі.**


Фота www.ic.pics.livejournal.com

На прэс-канферэнцыі начальнік упраўлення арганізацыі гандлю і паслуг Міністэрства антыманапольнага рэгулявання і гандлю Беларусі Віялета Бразоўская паведаміла, што ўведзеныя крыху больш за год таму абмежаванні на пасылкі з-за мяжы для беларусаў могуць быць «рэфармаваныя». Нагадаем, цяпер жыхар краіны бяспошлінна можа атрымаць пасылку коштам не больш за 22 еўра і вагой не больш за 10 кілаграмаў раз на месяц. За астатняе давядзецца плаціць мытную пошліну.

Цяпер прапрацоўваецца ідэя, каб павялічыць кошт пасылак да 200 еўра, а вагу — да 31 кілаграма ў месяц, паведаміла Бразоўская. Аднак 200 еўра і 31 кг — гэта агульная колькасць. Параметры адной пасылкі застануцца ранейшымі — 22 еўра і 10 кілаграмаў.

То бок можна будзе замовіць некалькі пасылак на месяц — гэта плюс. А мінус у тым, што мы па-ранейшаму «недавырашаем» праблему, і яна, як у серыяле, зацягваецца на няпэўны час. Справа ў тым, што ў нас існуе такі сабе Еўразійскі эканамічны саюз, дзе ўсё гэта павінна быць уніфікаванае. А ў нашых партнёраў — у Казахстане і Расіі — дзейнічае ліміт у памеры 1000 еўра. Іх адмыслоўцы толькі плануюць зменшыць той ліміт — да 200 еўра.

Цікавая і сітуацыя з нашай БелАЭС. Мы яе амаль дабудавалі, і раптам «у вышэйшых колах» асэнсавалі тое, пра што шматкроць казалі разнастайныя эксперты: падзець электраэнергію з яе няма куды. Суседзі — Літва і Польшча — брацы атамную электрычнасць адмаўляюцца. Лукашэнка на нарадзе па знешняй палітыцы Беларусі ўжо запатрабаваў думаць, куды накіроўваць гэтую электраэнергію. Прычым прапаноў ён чакае ад ураду.

То бок валютарысцкім рашэннем стварылі сабе праблему, якую яшчэ доўга будзем вырашаць.

Урад па слова ў кішэню не палез. Намеснік прэм'ера Анатоль Калінін паставіў задачу Мінбудархітэктуры «забяспечыць укараненне ў самыя кароткія тэрміны тыпавых праектаў шматкватэрных жылых дамоў, ацяпленне і гарачае водазабеспячэнне якіх будзе ажыццяўляцца з выкарыстаннем электраэнергіі», паведамляе прэс-служба ўрада.

Паставіць задачу, канечне, можна. Можна зрабіць і гэтыя «тыповыя праекты». Але чамусьці ў мяне ўзнікаюць пэўныя сумневы. Колькі будзе каштаваць кватэра ў такім «інавацыйным» доме? І што будзе з такой кватэрай гадоў праз 40-50, калі атамная станцыя вычарпае свой рэсурс? Зноў праблема, якую будзем вырашаць. Калі-небудзь, у будучыні.

Падключылася да абмеркавання і МЗС. На той жа нарадзе, дзе выступаў Лукашэнка, Уладзімір Макей зазначыў, што Сінявокая вядзе перамовы з замежнымі кампаніямі па вытворчасці ў Беларусі электрамабіляў.

Тэма, безумоўна, цікавая. Аднак, па-першае, мы не здолелі наладзіць масавую вытворчасць звычайных легкавікоў. Па-другое, яшчэ памятная гісторыя, як у Мінску загнуўся гібрыдны «Ё-мабіль» Прохарава. Пасля гэтага хтосьці сапраўды верыць у «электрамабіль у Беларусі»?

Ёсць іншая ідэя, падару яе ўраду. Не трэба нам збіраць гэтыя «ё-мабілі» і электракары. Алепш заняцца запраўвачна-сілкавальнымі станцыямі для гэтых мабіляў — ніша пустая ўвогуле.

Мінулым разам мы пісалі пра адмену роўмінгу ў ЕС. Натхнёная гэтым прыкладам дэпутаты расійскай Дзярждумы вырашылі, што Саюзная дзяржава не горшая за Еўропу. І ўнеслі на разгляд законапраект аб адмене з 1 студзеня 2018 года нацыянальнага роўмінгу з Беларуссю. «Відавочна, што для далейшага паглыблення інтэграцыі ў рамках Саюзнай дзяржавы патрабуецца праца ў многіх напрамках, у тым ліку ў напрамку даступнасці мабільнай сувязі», — гаворыцца ў тлумачальнай запісцы да дакумента.

Гэта, канешне, добра. Але, як заўсёды, ёсць «але». З беларускага боку такіх прапаноў не чуваць. Нас, як заўсёды, пра рэвалюцыйную ініцыятыву папярэдзіць забыліся. Роўмінг жа чаму дарагі? Таму што ад яго атрымліваюць прыбытак два аператары: аператар абанента і аператар краіны, у якой гэты абанент знаходзіцца. Калі Расія адменіць роўмінг у аднабаковым парадку, гэта проста не будзе працаваць. Бо нашы аператары ўсё роўна будуць здымаць свае «вяршкі» з расіянаў, якія тут размаўляюць па расійскім нумары.

Ну і самая глабальная праблема, якую мы стварылі сабе даўно і надоўга. Мы так зацята ваявалі з NATO, «гейропамі», абзывалі заходніх палітыкаў «бяз'яйкавымі» і іншымі крыўднымі словамі, а зараз высветлілася, што без іх мы нікуды. На той жа нарадзе Лукашэнка раптам пачаў казаць, што «сучасны этап развіцця беларускай дзяржавы патрабуе выбудоўваць нашу знешнепалітычную і знешнеэканамічную дзейнасць па-новаму — больш маштабна і наступальна. Лічу, што надышоў час, калі нам трэба на ўвесь голас заяўляць пра сябе на сусветнай арэне. Больш актыўна пашыраць і абараняць свае нацыянальныя інтарэсы. І не дзеля нейкіх амбіцый, а дзеля таго, каб умацаваць нашу суверэнную і незалежную дзяржаву».

Гаворачы пра павышэнне ролі Беларусі ў сусветнай палітыцы, Лукашэнка падкрэсліў, што ў краіны ёсць для гэтага ўсе падставы. «Для большай часткі свету мы — маладая дзяржава. Але працэс фарміравання нашай дзяржаўнасці налічвае не адно стагоддзе. Дзяржаўныя ўтварэнні, пераемніцай якіх з'яўляецца суверэнная Беларусь, былі паўнапраўнымі ўдзельнікамі падзей, што адбываліся ў нашым рэгіёне. А часам і тон задавалі. Таму пэўны гістарычны вопыт актыўнай знешняй палітыкі ў нас ёсць», — сказаў беларускі кіраўнік.

А таксама паставіў задачу больш актыўна развіваць узаемадзеянне з беларусамі, якія жывуць за мяжой, і не толькі ў Расіі: «Неабходна надаць больш увагі беларускай дыяспары».

Праблема, якой больш за дваццаць гадоў... Можа, і бел-чырвона-белы сцяг у дзяржаўныя вернем?

ФІГУРЫ ТЫДНЯ



## Юрась Губарэвіч

**Правацэнтрысцкая кааліцыя зноў анансуе адзінага кандыдата ад дэмакратычных сілаў на прэзідэнцкіх выбарах 2020 года.**

Па словах кіраўніка Руху «За свабоду» Юрася Губарэвіча, апазіцыя не здолее правесці паспяховую прэзідэнцкую кампанію, калі не будзе аб'яднаная вакол фігуры аднаго кандыдата. Без вылучэння «адзінага» апазіцыі цяжка будзе нават сабраць подпісы.

«Выхад на адзінага кандыдата ад дэмакратычнай апазіцыі — гэта паэтапная праца, і мы стаім зусім блізка да супольнага рашэння. Мы перайшлі ў межах правацэнтрысцкай кааліцыі ў рэжым кансультацый», — адзначыў Губарэвіч.

Старшыню Руху «За Свабоду» падтрымалі паплечнікі па кааліцыі. Сустаршыня БХД Віталь Рымашэўскі нагадаў, што рашэнне пра адзінага кандыдата ад кааліцыі было прынятае ў момант яе стварэння. А старшыня АГП Анатоль Лябедзька адзначыў, што кандыдат ад кааліцыі будзе адзіным, але спрагназаваць, ці атрымаецца дамовіцца ўсёй апазіцыі, пакуль складана.

Як паказвае практыка, дамова пра адзінага кандыдата ў Беларусі спрацавала толькі адзін раз, і тое не вельмі ўдала. Таму, хутчэй за ўсё, «адзіны» застанецца толькі чарговый і не вельмі свежай нагодай заявіць пра сваё існаванне.



## Алена Купчына

**У былой намесніцы міністра замежных справаў і пасла Беларусі ў Аўстрыі не атрымалася ўзначаліць АБСЕ.**

Кандыдатка ад Беларусі не дамаглася кансенсуснай падтрымкі ўдзельнікаў АБСЕ, нягледзячы на сесію Парламенцкай асамблеі арганізацыі ў Мінску, і АБСЕ ўзначаліць прадстаўнік Швейцарыі Томас Грэмінгер.

Перспектывы ў Купчынай былі — знаная дыпламатка, да таго ж жанчына ніколі не ўзначальвала АБСЕ. Аднак, як піша былы беларускі дыпламат, а цяпер супрацоўнік Сусветнага банка Валер Кавалеўскі, «пры ацэнцы перспектыў яе кандыдатуры адзначаюць адмоўную ролю рэпрэсій у Дзень Волі — нібыта гэта знізіла шанцы Купчынай на абранне. Аднак рэальнасць такая, што, нават нягледзячы на сапраўды выдатныя прафесійныя якасці Купчынай і спрыяльную кан'юнктуру, фактар міжнароднай рэпутацыі Беларусі пад шматгадовым кіраваннем Лукашэнкі стаў вызначальным для яе кандыдатуры».

«Невыпадкова, што прадстаўнікоў Беларусі не сустрэць на высокіх пасадах у міжнародных арганізацыях, не гаворачы ўжо пра пасады кіраўнікоў. Дый увогуле мала беларусаў працуе ў міжнародных арганізацыях. У дадатак да насцярожанага ўспрыняцця ў свеце Беларусі як блізкага саюзніка Расіі, беларуская дыпламатыя не прыкладае сістэмных намаганняў па прасоўванні сваіх спецыялістаў на прафесійныя пасады ў міжнародных арганізацыях», — канстатуе Кавалеўскі.



## Сяргей Міхалок

**Экс-«ляпіс» і кіраўнік гурта Brutto праз сваю няўважлівасць трапіў у скандал.**

Пачалося з таго, што Міхалок паўдзельнічаў у рэкламе авіякампаніі «Белавія», дзе чытаў верш Багдановіча «Слуцкія ткачыхі».

Пра гэта крытычна выказалася тэлевядучая Ганна Бонд. А Міхалок зблытаў яе з актывісткам Антонам Матолькам і ў даволі рэзкай форме адказаў на крытыку. Матолька словамі Міхалка быў здзіўлены і збянтэжаны, бо не толькі нідзе не крытыкаваў рэкламны ролік, але нават і не бачыў яго.

Гэта абмяркоўвалі ў інтэрнэце некалькі дзён, але потым, як напісаў Матолька, Міхалок пазваніў яму і персанальна папрасіў прабачэння за блытаніну. «Патэлефанаваў Сяргей Міхалок, папрасіў прабачэння. Размаўлялі 15 хвілін, ён растлумачыў усю сітуацыю. Так, мне гэтага званка было дастаткова і так, я не лічу гэтую гісторыю «крутым піярам». Паважаю людзей, якія ўмеюць прызнаваць свае памылкі. Гэтага нашай Беларусі вельмі не хапае цяпер», — напісаў Матолька.

Цяпер інтэрнэт чакае працягу спрэчкі Міхалка — ужо з Ганнай Бонд.

а | Азбука паліталогіі



Сяргей НІКАЛЮК

# У рэжыме штоквартальных нарадаў

**Змагацца з бюракратызмам бюракратыя здольная толькі бюракратычнымі метадамі.**

Ліпень. Год пераваліў праз экватар. Самы час падвесці прамежкавыя вынікі. Нагадаю чытачам, што ў сваім навагоднім звароце адзіны палітык (АП) усклаў на 2017 год вялікія надзеі. Пра іх маштаб сведчыць наступная цытата: «Ён (год) павінен стаць пераломным і даць магутны імпульс для развіцця краіны».

Важную ролю ў арганізацыі пералому, на думку АП, адыграе навука. «Інавацыйнаму шляху — прыярытэт!» Пад такім дэвізам варта эфектыўна ўкараняць у вытворчасць навуковыя дасягненні, што дасць магчымасць забяспечыць людзей працай і годным заробкам. «Узровень жыцця народа, — тут я зноў звяртаюся да цытавання, — павінен быць значна вышэйшы, чым сёння. Дасягнуць гэтага няпроста. Аднак, чаго б нам ні каштавала, мы ўжо ў надыходзячым годзе істотна павысім даходы грамадзян».

Істотна павысіць! Хто ж будзе супраць?! Але «істотна» — гэта ў працэнтах колькі? Паспрабуем падлічыць з дапамогай калькулятара і афіцыйнай статыстыкі. Намінальная налічаная заработная плата ў снежні склала 801,6 рубля, што па курсе на апошні дзень года адпавядала 409 доларам. На канец бягучага года сярэднестатыстычнаму беларусу наканавана зарабляць 500 долараў у эквіваленце. Гэта значыць, што зарплата павінна будзе павялічыцца на 91 долар.

Мае рацыю, тройчы мае рацыю АП, калі кажа пра зайздрасць Захаду з нагоды нашых дасягненняў. У Амерыцы, напрыклад, у 95% насельніцтва рэальная зарплата не расце ўжо 40 гадоў. А тут за год на 22,2%!

Але што мы маем па факце ў маі? На колькі ж удалося падвысіць за пяць месяцаў? Намінальная налічаная заработная плата за чатыры месяцы знізілася да 795,2 рубля (-0,8%), аднак павялічылася пры гэтым да 426,6 долара (+4,3%). Парадокс выкліканы дзвюма прычынамі. У снежні зарплата ў рублях традыцыйна ўзрастае за кошт гадавых бонусаў, таму -0,8% у маі адносна снежня не павінны здзіўляць. Што да росту зарплаты ў доларах, дык ён выкліканы ўмацаваннем рубля. З'ява гэта для Беларусі ўнікальная, тым не менш яна фіксуецца з лета мінулага года.

## Індэкс дыстанцыі ўлады

Неабгрунтаванасць аптымізму АП відавочная. Але куды глядзіць «каралеўская раць»? Няўжо ў эканамічным блоку ўрада няма спецыялістаў, здольных рабіць элементарныя разлікі з дапамогай калькулятара?

На пабытавым узроўні адказы відавочныя. Але жанр артыкула абавязвае мяне тлумачыць простае праз мудрагелістае і навукападобнае. Таму пачну з нечаканага прыкладу. 5 жніўня 1997 года адбылося крушэнне «Боінга 747», які ажыццяўляў пералёт з Сеула на востраў Гуам. Капітан лайнера быў дасведчаным пілотам са стажам палётаў больш за 8900 гадзін. Аднак замест прызямлення ў аэрапорце Гуама самалёт разбіўся аб пагорак на адлегласці трох міль ад узлётна-пасадачнай паласы.

Расшыфроўка запісаў бартавога самапісца паказала, што з-за цемры і дажджу капітан памылкова прыняў за пасадачную паласу іншую мясцовасць, у некалькіх мілях ад аэрапорта. Другі пілот і бортынжынер своечасова зразумелі памылку капітана, але не наважыліся прама сказаць яму пра гэта. За іх нерашучасць 228 чалавек заплацілі сваімі жыццямі.

Такія паводзіны чальцоў экіпажа характэрныя для прадстаўнікоў культур з высокім індэксам дыстанцыі ўлады (ІДУ). Тэрмін уведзены ў навуку галандскім сацыёлагам Гертам Хоўстэдэ.

У культурах з высокім ІДУ за кожным чальцом грамадства жорстка замацавана яго месца ў сацыяльнай іерархіі і адпаведны гэтаму месцу аб'ём паўнамоцтваў. Такога кшталту грамадствы характарызуюцца цэнтралізаванай уладай і аўтарытарным лідарствам. Ва ўпраўленні высокі ІДУ выяўляецца, у прыватнасці, у імкненні выбудоўваць жорсткія вертыкальныя структуры і ў вялікай колькасці кантралёраў.

Да краінаў з такімі культурамі належаць пераважна нееўрапейскія дзяржавы: Малайзія (індэкс — 104), Расія (93), Мексіка (81), Кітай (80).

У культурах з нізкім ІДУ людзі імкнуцца да роўнасці ў правах і да ўсеагульнага кантролю за размеркаваннем паўнамоцтваў. Ва ўпраўленні гэта праяўляецца ў кансультатыўным стылі менеджменту, у распаўсюджванні гарызантальных арганізацыйных структур і параўнальна невялікай колькасці кантралёраў. У лідарах тут Аўстрыя (11), Ізраіль (13), Данія (18), Новая Зеландыя (22).

## Ад трагедыі да фарсу

Сістэматычныя замеры ІДУ ў Беларусі не праводзіліся. Усё, што мне ўдалося адшукаць, — гэта спасылка на даследаванне кампаніі GE Medical Systems (2004 г.), вынікі якога спецыялістамі ацэньваюцца крытычна. Тым не менш трохзначнае значэнне індэкса ІДУ (102), думаю, чытачоў не здзівіць. Прынамсі анекдотам пра талерантнасць беларусаў, якія не здольныя адстойваць сваё меркаванне перад начальствам, наш індэкс не супярэчыць.



Не супярэчыць ён і тэлевізійным рэпартажам з кабінета ў Палацы Незалежнасці, з якога АП пракладае курс беларускай мадэлі. Уявіць сабе, каб хтосьці з чальцоў «экіпажа» ўказаў «капітану» на яго памылку, немагчыма.

У канцы 2009 года коштам «крыві з носу» АП загадаў ураду давесці да канца 2010 года сярэдні заробак да 500 долараў. Разбуральнасць загаду для эканомікі была відавочная, але ўрад узяў пад казырок — і праца закіпела. «Кроў з носа» беларускай мадэлі пацякла ў сакавіку 2011 года. За год яе набегла на трохзначную інфляцыю і трохразовую дэвальвацыю.

У лютым падчас «Вялікай размовы» АП падкрэсліў, што за другую спробу дасягнуць запаветных 500 долараў зноў давядзецца заплаціць «крывёй з носа». Здавалася б, варта рыхтавацца да рымейку 2011 года. Аднак гісторыя, калі верыць Гегелю, паўтараецца двойчы: першы раз у выглядзе трагедыі, другі — у выглядзе фарсу.

Сведкамі фарсу ўсе мы сёння і з'яўляемся. Урад, атрымаўшы «вельмі жорсткі» загад, зноў узяў пад казырок, але тым і абмежаваўся. Ні ў канцы мінулага года, ні за першую палову года бягучага ні ў адзін з афіцыйных дакументаў гэты амбіцыйны загад АП так і не быў уключаны, што не перашкаджае прэм'ер-міністру Андрэю Кабякову выцягвацца ў струнку пры кожным высокім напаміне пра 500 долараў.

Як тут не прыгадаць эканаміста эпохі сталінскіх пяцігодак Станіслава Струміліна з яго выказваннем, што стала афарызмам: «Лепш стаяць за высокія тэмпы (эканамічнага росту), чым сядзець за нізкія».

**Сведкамі фарсу ўсе мы сёння і з'яўляемся. Урад, атрымаўшы «вельмі жорсткі» загад пра пра 500 долараў да канца года, зноў узяў пад казырок, але тым і абмежаваўся. Ні ў адзін з афіцыйных дакументаў гэтая амбіцыйная мэта так і не была ўключана**

## Нягледзячы на шчыльны графік

На выклікі павінны быць адказы. Выклікі для ўраду ў Беларусі фармуюць не грамадства ці эканоміка, а АП. Таму свае адказы ўрад «дзяржавы для народа» накіроўвае не ўніз у выглядзе канкрэтных рашэнняў, а ўверх у выглядзе прапаноў па правядзенні нарад і стварэнні камісій.

Звернемся да тэксту Паслання–2017. З самай высокай трыбуны краіны АП абвясціў, што вынікі першага квартала «мы бліжэйшым часам разгледзім на пасяджэнні ўраду, а дакладней, пры справаздачы ўраду перад прэзідэнтам, гэта будзе бліжэйшым часам з удзелам нашых дэпутатаў і сенатараў, Нацыянальнага банка, усёй вертыкалі ўлады і кіраўнікоў найважнейшых арганізацый».

Усе пералічаныя службовыя асобы слухалі са сваіх крэслаў у Авальнай зале. Ніхто не запярэчыў. «Бліжэйшы час», мяркуючы па календары, прайшоў. Вынікі першага квартала ўжо мала каму цікавыя. Самы час, так бы мовіць, вызначаць новы «хуткі час» для разгляду вынікаў паўгоддзя.

Свой «хуткі час» быў абяцаны і для падрыхтоўкі дакумента, закліканага «зрабіць столькі, колькі трэба, каб ён (бізнес) мог функцыянаваць, каб ён мог адкрыць справу, працаваць без аглядкі і разумець, што ніхто незаконна да яго не прыйдзе і не пачне выкалочваць з яго хабар».

Распрацоўка рэвалюцыйнага дакумента была даручана групе пад кіраўніцтвам намесніка кіраўніка адміністрацыі Валерыя Міцкевіча. Дзесяць кіламетраў — сабаку не кола. Два месяцы — не «хуткі час». 23 чэрвеня АП быў вымушаны сабраць нараду, на якой прыняў рашэнне... правесці чарговую нараду і прыняць адпаведнае рашэнне.

Але рашэнне аб разняволенні прадпрымальніцкай ініцыятывы — гэта толькі адно з рашэнняў, якое трэба будзе прыняць на ўзроўні АП, нягледзячы на шчыльны графік правадыра. Таму з гэтага часу ўся вертыкаль улады раз на квартал павінна будзе збірацца для абмеркавання важных пытанняў. У рэжыме мазгавога штурму плануецца разгледзець пытанні сельскай гаспадаркі, ЖКГ і адукацыі. Пытанне наконт павышэння сярэдняга заробку да 500 долараў у лік важных, па незразумелай мне прычыне, уключана не было.

***

У свой час Астап Бэндэр прапаноўваў ударыць па бездарожжы і разгільдзяйстве аўтапрабегам. Не валодаючы ўладнымі паўнамоцтвамі, Вялікі камбінатар быў вымушаны шукаць нестандартныя рашэнні. АП прасцей. У верасні 2006 года ён паабяцаў расійскім журналістам разняволіць беларусаў і дэбюракратызаваць краіну, для чаго «ў бліжэйшы год, можа, два, унесці нарматыўныя акты — законы, указы, дэкрэты, распараджэнні, пастановы».

Вось такі набор бюракратычных мер для барацьбы з бюракратызмам. За 11 гадоў ён сваёй актуальнасці не толькі не страціў, але і папоўніўся штоквартальнымі нарадамі з удзелам усёй вертыкалі ўлады.

# Алена Макоўская: «Эміграцыя — гэта наша мяккая сіла»

Алесь КІРКЕВІЧ

**Афіцыйна за мяжой цяпер жыве 3,5 мільёны беларусаў, што само па сабе складае больш чым траціну насельніцтва Беларусі. Рэальная лічба, імаверна, яшчэ большая. Вядома, што беларусы жывуць у 73 краінах свету, арганізаваныя супольнасці нашай дыяспары ёсць у 26 з іх.**

Хто ж яны, беларускія эмігранты, і што з сябе ўяўляе наша дыяспара сёння? Напярэдадні VII З'езду беларусаў свету, які Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына» праводзіць 15-16 ліпеня, мы вырашылі пагутарыць з кіраўніком арганізацыі Аленай Макоўскай.

***— Чаго чакаць ад з'езду?***

— Гэта ўжо сёмы з'езд, «Бацькаўшчына» ладзіць іх раз на чатыры гады. Першы з'езд прайшоў у 1993 годзе. Кожны з іх — гэта адлюстраванне актуальных пытанняў, якія стаяць і перад беларускай грамадскасцю, і перад нашай дыяспарай. Гэты з'езд стане ўнікальным хаця б таму, што ідзе відавочная змена стаўлення да беларускай дыяспары. Магчыма, не ўсе гэта бачаць, але дыяспара ўжо адчувае сябе па-іншаму.

***— Змена стаўлення грамадства, улады ці…***

— Найперш, мабыць, грамадства, бо яно больш мабільнае, гнуткае, хутчэй рэагуе на змены і выклікі вакол нас. Напярэдадні з'езду мы рабілі цікавае апытанне разам з лабараторыяй «Новак», вынікі якога будуць агучаныя акурат на з'ездзе. Мы вырашылі пагдядзець, як ацэньваюць патэнцыял супрацоўніцтва з дыяспарай дзяржаўныя чыноўнікі і няўрадавыя арганізацыі, каб зразумець, дзе і ў якой меры магчымая супраца. Можна канстатаваць, што сёння Беларусі дыяспара неабходная болей, чым дыяспары — Беларусь. Падаецца, што грамадства гэта ўжо бачыць, і наступны крок за дзяржавай, бо без сістэмнай дапамогі і эфектыўных механізмаў такая супраца немажлівая.

У свеце цяпер мігруе агромністая колькасць людзей — здаецца, каля 3 мільёнаў чалавек за год. І гэтыя тэмпы паступова нарастаюць. Беларусы — не выключэнне з гэтага працэсу. Яны актыўна атрымліваюць адукацыю ў замежжы, імкнуцца завязаць працоўныя кантракты. Таму ў розных краінах з'яўляюцца сеткі нашых суайчыннікаў, якія пазіцыянуюць сябе беларусамі і могуць рэпрэзентаваць нашу краіну. Гэта наша мяккая сіла, нашы іміджавыя цэнтры. Гэта людзі, якія маюць вопыт, веды, замежную адукацыю, сетку кантактаў і добрыя прафесіі. Яны могуць быць надзвычай карыснымі для краіны: як самі, так і ў якасці пасярэднікаў, якія дапамогуць ва ўсталяванні кантактаў з усім светам.


Беларусы падчас шэсця ў гонар 150-годдзя Канады, 2017

Адначасна гэтыя людзі распаўсюджваюць інфармацыю пра Беларусь, што таксама важна. Часам гэта дзейнічае лепш за любыя ўрадавыя прэзентацыі і праграмы, калі замежнік мае непасрэдныя стасункі з беларусам, які будуе адчуванне даверу да нашай краіны, яе культуры, яе прадстаўнікоў.

***— Сапраўды, хто за каго мае трымацца — дыяспара за метраполію ці наадварот?***

— Першаснае стаўленне любой краіны да сваіх эмігрантаў — гэта недавер. Маўляў, з'ехалі — значыць, «не нашыя»… Раней адназначна было больш негатыву. Мы гэта добра бачым па часах БССР, калі паводле савецкай ідэалогіі эмігрант раўняўся здрадніку і калабаранту.

***— А што наконт 1990-х і 2000-х?***

— 1990-я — гэта ўсплёск узаемнай цікавасці і час нацыянальнага абуджэння. Калі мы ладзілі Першы з'езд беларусаў свету, была проста неверагодная дыскусія ў грамадстве. Памятаю, у газетах на поўным сур'ёзе абмяркоўвалася пытанне, ці ладзіць з'езд наогул. Гэта была ломка псіхалогіі і менталітэту, бо доўгі час уся савецкая ідэалагічная машына казала, што беларусы замежжа — «ворагі», а тут людзі ўпершыню за доўгі час ці наогул упершыню ў жыцці прыязджаюць у Беларусь і пачынаюць актыўна дапамагаць краіне.

***— Маеце на ўвазе праграмы дапамогі чарнобыльцам, якімі займаўся ў тым ліку Аляксандр Надсан?***

— І Чарнобыль, і рэстаўрацыя помнікаў, і розныя культурніцкія праекты. Дыяспара стварала сумесныя прадпрыемствы, прыязджалі з інвестыцыямі, бо з'язджалі некалі не таму, што хацелі пакінуць Беларусь, а беглі ад небяспекі, ад пагрозы свайму жыццю і свабодзе. Таму магчымасць вярнуцца на Радзіму абуджала ў эмігрантах неверагодную энергію і жаданне паспрыяць краіне.

Паступова партрэт эміграцыі змяняўся, бо пачалі ад'язджаць новыя людзі, паўстаў фактар ужо не палітычнай, а працоўнай эміграцыі. Дзяржава пэўны час глядзела на эміграцыю як на крыніцу інвестыцыяў, а новая плынь дыяспары на дзяржаву — як на крыніцу падтрымкі. Бо старэйшае пакаленне беларускай дыяспары на Захадзе даўно моцна стаяла на нагах, самастойна вырашала свае матэрыяльныя пытанні, ім была больш патрэбная сімвалічная дапамога: прызнанне таго, што яны — неад'емная частка беларускай нацыі.

Сёння ж надыходзіць больш прагматычныя часы, змяняецца і прафесійны партрэт дыяспары. Дзяржава таксама мае адсочваць гэта, займацца маніторынгам і мапінгам, каб зразумець, дзе ў свеце ёсць беларусы і што яны з сябе ўяўляюць у плане занятка ў і кваліфікацыі.

***— Як мае выглядаць праца дзяржавы з дыяспарай?***

— Любая праца з дыяспарай любой краіны пачынаецца з пабудовы даверу. Бо ў нас па-ранейшаму на ўзроўні грамадства працуюць штампы: «Яны з'ехалі, дык што яны нам могуць сказаць, чаму навучыць?». Эмігранты таксама па-рознаму ставяцца да Беларусі: да краіны-маці — добра, а вось да дзяржаўных інстытуцый — часам вельмі неадназначна. Такі недавер паміж дыяспарай і метраполіяй — не беларуская адметнасць, ён існуе шмат у якіх краінах. І каб ладзіць эфектыўную супрацу, пачынаць варта акурат з кампаніі па пабудове даверу.

Калі наша дзяржава хоча атрымаць інвестыцыі, то трэба рабіць сур'ёзны ўнёсак у развіццё стасункаў з дыяспарай, ладзіць больш сур'ёзныя дзяржаўныя праграмы, ствараць стратэгію, якая б вызначыла прыярытэты і кірункі, у якіх мы рухаемся. У 2014-м прыняты закон «Аб беларусах замежжа». Гэта было зроблена дзякуючы і намаганням ЗБС «Бацькаўшчына», і намаганням дыяспары. Але ён носіць больш дэкларатыўны характар, бо не ўтрымлівае наўпроставых механізмаў вырашэння пытанняў.

***— У чым функцыя гэтага закону?***

— Магчыма, акурат у тым, каб закласці аснову, на якую можна накладаць нарматыўныя акты і дзяржаўныя праграмы, што вырашалі б канкрэтныя праблемы. Бо падпраграма «Беларусы ў свеце», якая дзейнічае сёння і з'яўляецца часткай праграмы «Культура Беларусі», скіраваная збольшага на задавальненне культурніцкіх патрэбаў дыяспары. Нам, у сваю чаргу, хацелася б, каб супраца ішла ў розных кірунках і ставіла перад сабою дасягненне пэўных стратэгічных задач.

Думаю, з'езд — гэта вельмі ўдалы механізм для абмеркавання ўсіх пытанняў. Будзе наладжаны абмен меркаваннямі і непасрэдная жывая распрацоўка гэтай новай стратэгіі, бо кожны прыязджае са сваімі думкамі, ідэямі і патрэбамі. Іх абагульненне і дасць паўнавартасную стратэгію.

***— Ці можна казаць, што зацікаўленасць дзяржавы — больш эканамічная, а дыяспары — больш сентыментальна-патрыятычная?***

— Гэта справядліва толькі для часткі дыяспары, бо, як я казала раней, беларусы замежжа вельмі розныя. Дыяспара сёння мае даволі абмежаваны ўплыў на грамадства, нягледзячы на тое, што яе прадстаўнікі працягваюць ладзіць сацыяльныя праграмы і дапамагаюць у культурніцкіх праектах. На жаль, дыяспара, яе гісторыя і сённяшнія рэаліі, адсутнічае як у школьных праграмах, так і ў праграмах



**Алена Макоўская: «Дыяспара, яе гісторыя і сённяшнія рэаліі — гэта вялікі пласт нашай культуры, які пакуль што застаецца выкрасленым»**

ВНУ. Гэта вялікі пласт нашай культуры, які пакуль што застаецца выкрасленым. Пра сам феномен «беларуская дыяспара» ведаюць, але ўспрымаюць яе найчасцей як адарваную ад краіны супольнасць.

***— Дыяспара апроч настальгічнага мае нейкі эканамічны інтарэс?***

— Так, я акурат казала пра змену пакаленняў і падыходаў, бо ёсць высокаадукаваныя людзі, якія атрымалі адукацыю за мяжой. Частка з іх магла б прыехаць назад у Беларусь і працаваць на яе карысць. Пры гэтым няма механізмаў іх свабоднага працаўладкавання, асабліва ў дзяржаўныя структуры. Наша адукацыя ўнутры краіны далёка не ідэальная, і ў той жа час выпускнікі замежных ВНУ маюць цяжкасці з прызнаннем сваіх дыпломаў, якія шануюцца ва ўсім свеце, толькі не ў нас. Як тады прыцягнуць такія кадры?

У Беларусі нядаўна было створанае агенцтва «Твае заўтра» на чале з Інай Куней, якое займаецца вырашэннем пытанняў маладых беларусаў, прафесіяналаў і спецыялістаў, якія вяртаюцца да нас з-за мяжы. Атрымліваецца парадокс: людзі вучацца за мяжой, атрымліваюць каштоўны дыплом, хочуць вярнуцца, але сутыкаюцца з перашкодамі і складанасцямі на Радзіме.

Частка прадстаўнікоў дыяспары хацела б вярнуцца дамоў на пенсію, маючы магчымасць набыць тут маёмасць і жыць. Неаднойчы беларусамі ўздымалася пытанне падвойнага грамадзянства. Сёння падвойнае грамадзянства не прызнаецца ў Беларусі, але шмат хто з беларусаў мае два пашпарты.

Прывяду яшчэ адзін прыклад таго, як мы адмяжоўваемся ад другога пакалення дыяспары. Бывае так, што людзі з'ехалі за мяжу разам з дзецьмі, якім было па 4-5 гадоў. Дзеці там выраслі, маюць іншую адукацыю, працу, грамадзянства. І хацелі б наведаць сваю радзіму, пабачыцца са сваякамі, але не могуць, бо да гэтага часу ім на старыя адрасы іхных бацькоў прыходзяць позвы ў ваенкамат.

***— Ёсць нейкі міжнародны досвед вырашэння такіх пытанняў?***

— Напрыклад, у Індыі быў створаны дзяржаўны камітэт, які два гады займаўся адно вывучэннем пытанняў індыйскай дыяспары ў свеце, месцазнаходжаннем, прафесійным складам і гатоўнасцю супрацоўнічаць з краінай. У выніку дзяржава пачала выдаваць індусам, якія жывуць за мяжой, пашпарты «індусаў замежжа». То бок індус можа мець брытанскі пашпарт і пашпарт замежнага індыйца адначасна.

Індыя ў гэтым вельмі зацікаўленая, бо іх дыяспара складае каля 20 мільёнаў чалавек. Іх урад разумее, што сярод яе прадстаўнікоў ёсць шмат высокапрафесійнай публікі, з якой варта трымаць кантакт і прыцягваць да супрацы. Гэта адбілася на эканамічным росце краіны вельмі пазітыўна.

***— А ў нас?***

— Афіцыйная лічба складае тры з паловай мільёны беларусаў-эмігрантаў, але насамрэч дакладна падлічыць вельмі складана, бо шмат беларусаў жыве за мяжой, але не лічыць сябе дыяспарай альбо абмяжоўвае свае кантакты з афіцыйнай Беларуссю.

Падлічыць дакладную колькасць нашых за мяжой даволі цяжка. Акурат таму праграма па аднаўленні даверу была б вельмі карыснай і вельмі своечасовай. Калі б улады паставіліся больш уважліва да сваёй дыяспары, то і яна, магчыма, адкінула б свой недавер і ўсвядоміла сваю ролю звяна паміж Бацькаўшчынай і вялікім светам.

**Фота з архіву Алены Макоўскай**

# Майніць беларусам



Дзяніс ЛАЎНІКЕВІЧ

**Апошнім часам вакол крыптавалютаў у Беларусі шмат нездаровага ажыятажу. Людзі нібыта пашалелі — толькі і размоваў пра тое, як «зрабіць ферму ды намайніць біткоў». Чым усё гэта можа скончыцца? І што ж такое крыптавалюта?**

Гадоў 30 таму разумныя, на першы погляд, людзі раптам пачалі лячыць трафічныя язвы Кашпіроўскім ці зараджалі Аланам Чумаком перад тэлевізарам слоікі з вадой. А яшчэ ад усіх самых страшных пошасцяў ратаваліся меднымі бранзалетамі і вадой, якую настаялі на чорных крэмнях. Потым гэтыя ж людзі неслі грошы ў МММ і галасавалі за Лукашэнку.

Мінулі гады — і вось ужо вар'яцеюць іх дзеці (а часам і ўнукі). Псіхоз нашых дзён — мара хутка разбагацець, правёўшы на сваім кампутары нейкія матэматычныя вылічэнні і атрымаўшы ў якасці грошай вынікі гэтых самых вылічэнняў. Якія потым абавязкова падаражэюць і пральюць залаты дождж на свайго ўладальніка.

Пры гэтым у кожнага захопленага гэтай ідэяй абавязкова знойдзецца брат жонкі знаёмага калегі па працы, які «накупляў відэакарт і паставіў у сябе ў доме ферму, зараз майніць грошы і працу даўно закінуў, па пяць разоў на год ездзіць з жонкай і дзецьмі ў Егіпет і ўжо купіў кватэру ў Балгарыі».

У фірмах па продажы кампутарных камплектавальнікаў не набыць відэакарт (само пытанне пра іх ужо выклікае істэрыку на тым баку тэлефона), а электрыкі не могуць зразумець дзіўную колькасць замоў на правядзенне ў звычайныя кватэры магутных сілавых кабеляў. Маладыя людзі толькі і гавораць, што пра майнінг ды «курс бітка да альткойнаў».



### Крыху тэорыі

Што ж такое крыптавалюта? Насамрэч, гэта вынік вылічэнняў па вельмі складаных формулах, пасля якіх атрымліваецца складаны код. Дзякуючы гэтаму кожная адзінка такой валюты абсалютна ўнікальная і не можа быць падробленая або прадубляваная. Памацаць крыптавалюту нельга — яна існуе толькі ў выглядзе набору нулёў і адзінак у глабальнай сетцы. Хоць пры гэтым мае сваю каштоўнасць. Часткова з-за таго, што для атрымання кожнай такой «грашовай адзінкі» (і адначасова спраўджвання аперацый у сістэме) патрабуюцца велізарныя вылічальныя магутнасці, а часткова — з-за глабальнага ажыятажу вакол гэтых самых крыптавалютаў.

Яшчэ адна перавага крыптавалюты ў тым, што немагчыма штучна яе абясцэніць, выкінуўшы на рынак вялікі яе аб'ём. Бо адмысловы алгарытм абмяжоўвае магчымасць эмісіі раз і назаўжды зададзенай колькасцю. То бок генераванне новых адзінак крыптавалюты не бясконцае, а абмежавана максімальнай лічбай, пасля чаго аб'ём гэтай валюты ў абарачэнні расці перастане.

Стварэнне новых аб'ёмаў крыптавалюты — гэта рашэнне матэматычнай задачы, якая адпавядае шэрагу ўмоў. Код, што ляжыць у аснове валюты, паступова змяняецца — да яго далучаюцца ўсё новыя і новыя камбінацыі.

«Клубок», які ўтвараецца, — аналаг усёй грашовай масы крыптавалюты, што знаходзіцца ў абарачэнні на дадзены момант, разам з гісторыяй усіх аперацый па перадачы валюты ад аднаго ўладальніка да іншага і хэш-сумамі — завецца ланцугом блокаў (англ. blockchain). Каб стварыць новы аб’ём крыптавалюты, дадаўшы яго да ўжо існуючай, пры дапамозе кампутара адшукваюць запаветную лічбавую паслядоўнасць, склаўшы якую з папярэдняй хэш-сумай, атрымліваюць ужо новую, якая задавальняе зададзеным умовам.

Паколькі рашэнне гэтай задачы патрабуе сур'ёзных кампутарных рэсурсаў, прадугледжана ўзнагарода. Карыстальнік вырашае задачу і, калі дамагаецца поспеху, атрымлівае тую або іншую колькасць крыптавалюты, а ўся яе маса, змешчаная ў звароце, узрастае якраз на гэтую велічыню.

Апісаны працэс завецца майнінгам, а той, хто ім займаецца, — майнерам. Слова «майнінг» (mining) у перакладзе з англійскай азначае «здабычу карысных выкапняў», а слова «майнер» (miner) раней перакладалася як шахцёр.

Сёння існуе цэлы шэраг крыптавалют, самая вядомая з якіх — біткойн (bitcoin). Дык вось, колькасць біткойнаў у прынцыпе не можа перавысіць 21 мільён (так запраграмаваны алгарытм). Больш за тое, з генераваннем кожнага новага блока біткойнаў выдаткі кампутар-

# Як мяне да «новага інтэрнэту» рыхтавалі

Дзяніс ЛАЎНІКЕВІЧ

**Фантазія прадпрымальнікаў, якія навязваюць свае паслугі па завышаных цэнах, не ведае межаў. Раней яны «правяралі» якасць пітной вады і стан пластыкавых вокнаў, а зараз узяліся апрацоўваць уладальнікаў хатніх кампутараў.**

### Апрацоўка пенсіянераў і хатніх гаспадынь

Кожны мінчук, які праводзіць досыць шмат часу ў сваёй кватэры, непазбежна сутыкаецца з такой з'явай, як званкі на хатні тэлефон ад празмерна дакучлівых бізнесоўцаў, што прапануюць рознага кшталту паслугі пад выглядам «сацыяльных». Выкарыстоўваюцца самыя розныя выкрутасы. Раней жыхароў сталіцы «апрацоўвалі» нібы «праверкай якасці вады» (вада абавязкова аказваецца «вельмі кепскай», пасля чаго збянтэжанаму пенсіянеру хуценька навязваюць куплю фільтра ўтрая даражэй), пазней — «праверкай» пластыкавых вокнаў (усё тое ж самае, толькі са шклопакетамі). Дзе-нідзе ўжо «правяраюць» зношанасць электраправодкі». Уласна, гэтыя схемы даўно вядомыя і шматкроць апісаныя ў СМІ. Аднак апошнім часам з'явілася сёе-тое новае.

### Інтэрнэт ад Мінгарвыканкама ды іншыя цуды

Званок на хатні тэлефон прагучаў аб 11-й гадзіне раніцы. «Добры дзень, — зашчабятаў бадзёры дзявочы голас у слухаўцы. — Вы ж ведаеце, што цяпер па ўсім горадзе пракладваюць кабелі оптавалакна, каб падлучаць шматкватэрныя дамы да новага інтэрнэту? Наша кампанія па дамоўленасці з Мінгарвыканкамам правярае хатнія кампутары на іх сумяшчальнасць з новым інтэрнэтам. Проста ў шмат якіх старых кампутарах працэсар аказвае моцнае ўздзеянне на сеткавую плату, і з-за гэтага новы інтэрнэт працуе вельмі павольна. Паслуга па праверцы цалкам бясплатная…»



Пра гэты новы тып махлярства я нешта ўжо чуў, таму прыгатаваўся паслаць бадзёрую дзяўчыну туды, куды ў 1991-м Гарбачоў паслаў ГКЧП. Але своечасова спыніўся, прыкінуўся доўбнем і пагадзіўся — захацелася паглядзець на гэты спектакль самому, з першага шэрагу. «Добра, наш спецыяліст будзе ў вас паміж гадзінай і дзвюма», — паспешліва прызначыла дзяўчына, удакладніўшы адрас.

Роўна ў гадзіну пазванілі ў дамафон. Адмысловец аказаўся інтэлігентнага выгляду хлопцам гадоў 20-ці, з невялікай кайстрай і вялікай тэчкай з паперамі. Папрасіў паказаць хатні кампутар, спытаў, якія ёсць непаладкі, калі і за колькі я купляў кампутар, калі апошні раз пераўсталёўваў сістэму. Тэчку хлопец паклаў навідавоку, адразу адкрыўшы так, каб была бачная копія пасведчання аб рэгістрацыі ТАА з цяжкавымаўляльнай назвай на амерыканскі лад.

І распачаў свой расповед: «Дыягностыку мы праводзім бясплатна, гэта такая акцыя, каб кампутары ў Мінску працавалі нармальна. Дакладней, мне за дыягностыку плаціць фірма. А ўжо калі я знайду нейкія праблемы, то распавяду, да каго звярнуцца, каб іх выправіць». Уласна, да гэтага моманту ўсё ішло нармальна — пакуль малады чалавек не пачаў «дыягнаставаць» мой ноўтбук.

Пачалося, зрэшты, з запаўнення пратаколу агляду (!). Пасля чаго адмысловец доўга высвятляў, не ці дапякае мяне назойлівая рэклама ў інтэрнэце. А далей пайшла сапраўдная

**Я ведаю сем'і, дзе бацька і маці кампутар купілі сыну-падлетку. Вось яны б паявіліся на аповеды пра «карысныя і шкодныя вірусы». А колькі яшчэ пенсіянераў, якім кампутар набылі дзеці, каб быць на сувязі па Скайпе?**

# ці не майніць?

ных рэсурсаў растуць, таму патрабуецца ўсё больш сур'ёзнае апаратнае забеспячэнне.

### Як беларусы ў шахцёры падаліся

Калі яшчэ пару гадоў таму працэс майнінгу быў даступны на хатніх кампутарах з 2- і 4-ядзернымі працэсарамі, то зараз гэтага недастаткова. Сёння для вылічэнняў выкарыстоўваюць магутныя гульнявыя і прафесійныя відэакарты NVIDIA або AMD. Справа ў тым, што сучасныя відэакарты маюць працэсар, адмыслова арыентаваны на выкананне найскладанейшых матэматычных вылічэнняў, якія цэнтральны працэсар кампутара выконвае ў шмат разоў павольней.

Такія відэакарты аб'ядноўваюць у вялікія блокі, а з блокаў будуюць так званыя «фермы». Стварэнне адной фермы абыходзіцца ў пару дзясяткаў тысяч долараў, а электрычнасці яна спажывае як вялікі жылы дом. Але гэта не спыняе людзей, якія паверылі, што дастаткова сабраць досыць магутную ферму — і яна сама ў прамым сэнсе «налічыць» табе грошай.

Вельмі шмат такіх паверыўшых сёння і ў Беларусі. Хаця да нас, як гэта часта бывае, хваля дакацілася амаль што ў апошнюю чаргу. Сёння асноўныя магутнасці майнінгавых фермаў засяроджаныя ў Кітаі і ўяўляюць сабой сапраўдныя фабрыкі, «прадукцыяй» якіх з'яўляюцца згенераваныя біткойны. А беларусы, атрымліваецца, хочуць з імі канкураваць?

Нагадаю пра матэматыку. Узнагарода, якую майнер атрымлівае за рашэнне задачы, увесь час памяншаецца, бо майнераў усё больш, а яшчэ не згенераваных біткойнаў — усё меней. Яшчэ ў 2013 годзе за знойдзены новы блок майнер атрымліваў узнагароду ў 50 біткойнаў, у 2015-м яна знізілася да 25, а ў 2017-м складае ўжо 12,5. Займацца майнінгам індывідуальна ўжо практычна бессэнсоўна: верагоднасць поспеху мізэрная.



Вядома, у рэальнасці ўсё больш складана. Майніць можна не толькі біткойны, але і іншыя крыптавалюты (зборны назоў «альткойны»), якіх за апошнія пару гадоў напладзілася вялікае мноства. Вось толькі пакуль толькі адна з іх — Ethereum («Эфір») — стала сапраўды папулярнай і каштоўнай. Большасць іншых крыптавалют — проста эксперыменты, болей або меней паспяховыя. Яны могуць вельмі моцна падаражэць (як біткойн тры гады таму і ўвесну 2017 года), а могуць аказацца нічога не каштуючым наборам нулёў і адзінак.

Што мы атрымліваем у выніку? Укладаць грошы трэба ўжо сёння — у апаратуру, электрычнасць, іншыя выдаткі. А калі тыя новыя альткойны падаражэюць — немаведама. Як невядома, ці падаражэюць яны ўвогуле.

### Гісторыя Сцяпана

Сцяпан жыве ў маім доме, і гэта з-за яго літаральна кожны месяц на паўдня знікае святло — вылятае старая трансфарматарная будка ў двары. Сцяпан трымае ў кватэры майнінгавую ферму, якая спажывае процьму электрычнасці. Даводзіцца маніпуляваць з электраправодкай, з лічыльнікам, каб паказчыкі не выглядалі неверагоднымі.

Сцяпан, мякка кажучы, не гаваркі чалавек, але аднойчы распавёў мне сваю гісторыю: «Усё пачалося напрыканцы 2012-га, тады біткойн каштаваў яшчэ зусім мала, хоць адмыслоўцы ўжо бачылі яго вялікі патэнцыял. Я тады працаваў сістэмным адміністратарам у адным міністэрстве, у мяне была сетка з 500 кампутараў, шмат вольнага часу і прафесійная неабходнасць цікавіцца ўсім новым. Даведаўшыся пра біткойн, я вырашыў — цікавасці дзеля — майніць яго на міністэрскіх кампутарах. На ноч я іх не выключаў. Удзень на іх людзі працавалі, а ўначы тыя ж машыны здабывалі для мяне біткойны. Балазе, электрычнасць там ніхто не лічыў. Увесну 2013-га курс біткойна рэзка ўзляцеў, грошы сталі сур'ёзнымі. Але і ў міністэрстве займацца гэтым стала немагчыма».

**Праблема ўсіх, хто спрабуе зарабіць на крыптавалютах у Беларусі, — немагчымасць легальна атрымаць заробленае. Афіцыйнага статусу «новыя грошы» ў Беларусі не маюць, законам не рэгулююцца, банкі з імі не працуюць. Каб перавесці той жа біткойн у грошы, давядзецца ехаць за мяжу ды ўвязвацца ў сумнеўныя схемы**

Тады Сцяпан сабраў першую ферму ў сябе дома яшчэ са звычайных ПК. У студзені 2014-га курс біткойна ўзляцеў да 1100 долараў, Сцяпан стаў заможным. Але неўзабаве курс зваліўся больш чым у два разы. Сцяпан паспеў купіць добрую машыну, але іншыя яго біткойны абясцэніліся. Наш герой плюнуў і вырашыў завязаць. Але курс зноў пачаў расці — больш павольна, затое стабільна. Сцяпан кінуў працу і стаў скупляць відэакарты, пераробляць сваю ферму, эксперыментаваць з іншымі крыптавалютамі. Час ідзе, выдаткі растуць, прыбыткі падаюць, але спыніцца Сцяпан ужо не можа.

«Разумееш, гэта залежнасць, самая сапраўдная. Прачынаешся ўначы і бяжыш глядзець курс бітка да долара, эфіра да долара. Ужо жывеш гэтым, — распавядае ён. — Але самае крыўднае: ты быццам і багаты, а грошы атрымаць не можаш. Беларускае заканадаўства біткойн не прызнае, для яго ён — нішто. Але калі выведзеш у рэальныя грошы — атрымаецца прыбытак з паветра. І да цябе адразу прыйдуць. А знойдуць ферму — гэта як мінімум незаконная прадпрымальніцкая дзейнасць...»

Вялікая праблема ўсіх, хто спрабуе зарабіць на крыптавалютах у Беларусі, — немагчымасць легальна атрымаць заробленае. Афіцыйнага статусу «новыя грошы» ў Беларусі не маюць, законам ніяк не рэгулююцца, таму і банкі з імі не працуюць. Каб перавесці той жа біткойн у звычайныя грошы, давядзецца ехаць за мяжу ды ўвязвацца ў розныя сумнеўныя схемы.

Але калі дзяржава нарэшце акрэсліць правілы гульні на рынку крыптавалют — яны адразу страцяць сёняшнюю рамантычную прывабнасць. Да таго ж, мы ведаем, як звычайна ў нас гэта робіцца — праз прызначэнне адказнага чыноўніка.

Хаця Сцяпан чакаць гэтага не будзе. Па словах яго жонкі, ён ужо зноў шукае працу сістэмнага адміністратара.

---

плынь свядомасці. Вось толькі некаторыя цытаты: хто знаёмы з кампутарнай тэхнікай — ацэніць:

«У вас ідзе празмернае спажыванне памяці, з-за гэтага галоўны працэсар занадта грэецца».

«Гэты браўзер уражвае ваш кампутар у самае сэрца».

«Драйверы на кампутары — самыя галоўныя праграмы. Кожны кампутар, як і чалавек, мае свае драйверы. Калі вы выкарыстоўваеце няправільныя драйверы, то ламаецца сістэма».

Але поўная феерыя пачалася далей, калі малады чалавек падлучыў сваю флэшку. Адкрыўшы рэестр, ён пачаў тыкаць у яго пальцам: «Вось бачыце, гэта ў вас вірус сядзіць. Гэта ён пажырае рэсурсы вашага кампутара!». Сціплая, але карысная праграмка conhost.exe відавочна здзівілася, што яе абазвалі вірусам, але выгляду не падала. Малады чалавек тым часам працягваў палохаць: «Вы ведаеце, цяпер па свеце ходзіць страшны вірус, «Пецця» завецца. Чулі? Гэты вірус залазіць у кампутар і вынішчае ўсю інфармацыю з яго. У вас вось стаіць сістэмны антывірус, але ён нічога не робіць. Бачыце, ён піша: «вядомых вірусаў — 0». А ён павінен улічваць як карысныя вірусы, так і шкодныя. Гэта як у страўніку: ёсць карысныя бактэрыі, а ёсць шкодныя».

Антывірусная праграма Microsoft Security Essentials, мабыць, вельмі дзівілася. А я стаяў і думаў — няўжо ў свае 40 з лішнім гадоў я ўжо выглядаю настолькі клінічным ідыётам, што мне можна такое глупства казаць?

Шоў тым часам працягвалася. Адмысловец прыступіў да тэставання інтэрнэт-злучэння. Зайшоў на расійскі сайт https://2ip.ru/ (ён паказвае IP-адрас кампутара і некаторую іншую інфармацыю) і пачаў тыкаць пальцам у экран: «Вось бачыце, мая праграма паказвае, што ў вас занадта павольны інтэрнэт! Ён павінен быць хутчэйшым!»

Мне вельмі захацелася схадзіць на кухню па відэлец, каб здымаць локшыну з вушэй. Малады чалавек тым часам працягваў: «Оптавалакно цяпер ставяць па ўсёй Беларусі. Але кампутары ламаюцца, і справа тут не ў інтэрнэце, а ў тэхніцы. Ваш кампутар не зможа працаваць з новым інтэрнэтам. У вас добры кампутар, яго можна было б мадэрнізаваць і зрабіць яшчэ лепшым. Але, баюся, вы ўжо не паспееце — бачыце, як ён у вас грэецца!» (Тут ужо здзівіўся мой ноўтбук — ён, маючы металічны корпус з шыкоўным цеплаадводам, ад нараджэння не грэўся.)

«Вам трэба правільна пераўсталяваць аперацыйную сістэму на кампутар, — нарэшце рэзюмаваў малады чалавек. — Прыйдуць нашы адмыслоўцы і зробяць вось яшчэ гэтыя рэчы: пачысцяць кампутар унутры ад пылу, зменяць тэрмапасту — гэта тэрмаэлемент такі (!), пераўсталююць сістэму, наладзяць інтэрнэт, наладзяць браўзеры, аптымізуюць назапашаныя памылкі (!!!), знойдуць драйверы, наладзяць аперацыйную сістэму. У вас, я бачу, стаіць офісны пакет, яго таксама пераўсталююць. Нашы спецыялісты маюць для гэтага адмысловую ліцэнзію ад самой Microsoft».

Думаю, калі б пры гэтым у пакоі прысутнічалі адмыслоўцы Microsoft, яны б здзівіліся двойчы. Па-першае, таму, што яны выдалі мінскай фірме неіснуючую ў прыродзе ліцэнзію. А па-другое, што ад іх імя хтосьці збіраецца ставіць бясплатны (!) OpenOffice, які аніякага дачынення да Microsoft не мае.

Прадстаўнік фірмы працягваў: «Вам гэта будзе каштаваць 264 рублі. А, ну гэта ж мы вам патэлефанавалі. Значыць, для вас быў цяпер дзейнічае зніжка. Мінус 20%. Так што вам трэба заплаціць усяго 210 рублёў».

Далей дыялог развіваўся імкліва:

— Давайце пашпарт, будзем афармляць дамову.

— А дзе дамова?

— Вось яна (дае самотны аркушык, з двух бакоў спярэшчаны дробным шрыфтам).

— Можна я яго пакуль пакіну сабе, пракансультуюся з юрыстам і затым падпішу?

— Не, нельга! Падпісвайце цяпер, адразу (спрабуе выхапіць аркушык у мяне з рукі).

Працягу гэтая гісторыя не мела. Маё трыванне скончылася, я прагнаў госця і выключыў схаваны дыктафон.

### Праблемы рэальныя і прыдуманыя

У дадзеным выпадку прадстаўнік дзіўнай кампутарнай фірмы нарваўся ў маёй асобе на кампутарнага карыстальніка з 25-гадовым досведам. Але для чалавека меней кампетэнтнага яго размовы гучалі б цалкам пераканаўча. Тым больш што шараговыя абывацелі напэўна ж нешта чулі і пра новае оптавалакно, і пра «страшны вірус Пецця», і што нядобра гэта — калі кампутар грэецца.

Хатнія ПК сёння ёсць амаль ва ўсіх. Я ведаю некалькі сем'яў у сваім доме, дзе бабка і маці — простыя рабацягі, а адзіны кампутар у кватэры — той, што яны купілі свайму сыну-падлетку. Вось яны б напэўна павяліся на аповеды пра «новы інтэрнэт» ды «карысныя і шкодныя вірусы». А колькі яшчэ ёсць пенсіянераў, якім дзеці набылі кампутар, каб быць на сувязі па Скайпе?

Заняўшыся гэтай праблемай, ад калегаў і сяброў я даведаўся, што ўжо шмат у якіх раёнах Мінска была зафіксавана абтэлефаноўка кватэр з аповедамі пра «паслугу па прадухіленні праблем з оптавалаконнымі сеткамі». Спробы высветліць, што гэта за арганізацыя і хто з'яўляецца заказчыкам паслугі, выдавалі адказы: гэта прыватная кампанія, і дзейнічае яна па дамове з «Белтэлекамам». Зрэшты, у «Белтэлекаме» катэгарычна адмаўляюць усялякае падобнае «супрацоўніцтва». Як і ў Мінгарвыканкаме.

Шкада толькі, я так і не высветліў, што такое «новы інтэрнэт» і чым ён адрозніваецца ад «старога».

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### УЗБЕКІСТАН. Камуналка і рэлігія

Ва Узбекістане, дзе пазыкі насельніцтва за камунальныя паслугі дасягнулі рэкордных 1,25 мільярда долараў, прыдумалі, як прымусіць жыхароў аплачваць жыроўкі. Галоўны імам Ташкента папярэдзіў, што ўзбекаў з запазычанасцямі за камунальных плацяжах не дапусцяць да хаджу — паломніцтва ў Мекку. Нагадаем, што кожны мусульманін, калі можа сабе гэта дазволіць, павінен хаця б раз у жыцці здзейсніць хадж. «Калі ў чалавека ёсць доўг хаця б у адзін сум (узбекская нацыянальная валюта), то яго паломніцтва не будзе прынятае. Мы не будзем нават пускаць у самалёт такіх людзей, якія едуць у хадж», — цытуе імама прэса. Гэта першы выпадак ва Узбекістане, калі вядомы рэлігійны дзеяч удзельнічае ў кампаніі па спагнанні з насельніцтва пазык за камунальныя паслугі. Увогуле, сёлета Саудаўская Аравія вылучыла Узбекістану 7200 месцаў для паломнікаў у Мекку. Размеркаваннем гэтых квот займаецца некалькі дзяржаўных ведамстваў сумесна з Духоўным упраўленнем мусульман краіны.

**Паводле ўзбекскай прэсы**

### ХАРВАТЫЯ. Новы канфлікт на Балканах

Афіцыйныя ўлады Харватыі адмовіліся выконваць пастанову Арбітражнага суда ў Гаазе, які 1 ліпеня прызнаў правы Славеніі на Піранскую затоку — частку Адрыятыкі. Тэрытарыяльныя спрэчкі паміж Заграбам і Люблянай паўсталі пасля падзелу Югаславіі ў 1991 годзе. Славенія заявіла пра свае правы на ўсю Піранскую затоку, у той час як Харватыя прапанавала яе падзяліць. У выніку справа дайшла да Гаагскага арбітражу, суддзі якога пагадзіліся з пазіцыяй славенцаў, бо ў гады існавання Сацыялістычнай Федэратыўнай Рэспублікі Югаславія затока належала ім. Дэмарш Харватыі, якая адмаўляецца прызнаваць вердыкт Гаагі, ставіць у няёмкае становішча Еўракамісію і, што самае кепскае, падрывае аўтарытэт Гаагскага арбітражу. Па сутнасці, Харватыя стала ўжо другой краінай свету, якая апошнім часам нахабна ігнаруе рашэнні гаагскай Феміды. У мінулым годзе тое самае зрабіў Кітай, не прызнаўшы рашэння згаданай міжнароднай інстанцыі, якая выступіла на баку Філіпін у справе па размежаванні акваторыі Паўднёва-Кітайскага мора. Пакуль у Брусэлі думаюць, што рабіць з харватамі, абедзве краіны накіравалі ў спрэчны раён патрульныя лодкі, а Заграб увогуле абвінавáціў славенскіх паліцэйскіх ва ўварванні ў свае тэрытарыяльныя воды.

**Паводле харвацкай прэсы**

### КУБА. Легалізацыя прастытуцыі

Як вядома, адным з матываў, які мабілізаваў Фідэля Кастра і яго прыхільнікаў на рэвалюцыю 1959 года, быў ганебны імідж тагачаснай Кубы, якую амерыканцы часцяком называлі «публічным домам». Нездарма адной з першых рэформаў кастрыстаў стала жорсткая барацьба з секс-індустрыяй. Тым цікавей, што днямі прафсаюзы Кубы заклікалі легалізаваць так званыя «posadas». «Posadas», якія зніклі пасля рэвалюцыі, па сутнасці — невялікія матэлі, якія здымаюцца пагадзінна. Яны і былі адным з падмуркаў існавання мясцовай прастытуцыі. Тое, што цяпер сацыялістычная Гавана гатовая вярнуць артэфакты капіталістычнага мінулага, тлумачаць выключна бізнес-інтарэсамі. Эканамісты кажуць, што такія ўстановы будуць вельмі рэнтабельнымі і дапамогуць народнай гаспадарцы. Ініцыятары ўскосна прызнаюць, што жадаюць падарваць пазіцыі падпольных публічных дамоў. Праўда, хутчэй гэтыя матэлі будуць даступныя выключна інтурыстам. Арэнда пакоя на тры гадзіны ў «posadas» каштуе каля 5 долараў, а сярэдні заробак на Кубе складае ўсяго каля 26 «баксаў».

**Паводле кубінскай прэсы**

### ФРАНЦЫЯ. Гендарная рэвалюцыя ў футболе

Французская газета Liberation заклікала чыноўнікаў французскай футбольнай федэрацыі дапусціць жаночыя футбольныя клубы да гульняў у мужчынскіх лігах. Іншымі словамі, як лічыць Liberation, у краіне павінен існаваць адзіны, гендарна ўніверсальны чэмпіянат па футболе. На справядлівыя словы крытыкаў пра тое, што жанчыны-футбалісткі фізічна слабейшыя за мужчын, у аўтараў ідэі знайшоўся незвычайны аргумент. Яны ўспомнілі, што на этапе нараджэння футбольных спаборніцтваў у Францыі ў грамадстве хапала скептыкаў наконт допуску ў турнір правінцыйных клубаў, якія шмат каму падаваліся слабейшымі за каманды з буйных гарадоў. Спачатку правінцыялы сапраўды не складалі канкурэнцыю грандам, аднак літаральна праз некалькі гадоў клубы з перыферыі выбіліся ў лідары. Той жа пачэсны шлях, як мяркуюць у Liberation, могуць прайсці і жаночыя каманды, калі пачнуць біцца на роўных з мужчынамі. Чыноўнікі федэрацыі адказу на прапанову не далі. Між тым грамадскасць не выключае, што ў межах эксперыменту які-небудзь жаночы клуб дапусцяць да ўдзелу ў розыгрышы Кубка Францыі.

**Паводле французскай прэсы**

# Ва Украіну па візах

Алег НОВІКАЎ

**У Кіеве зноў кажуць пра хуткае ўвядзенне візавага рэжыму з Расіяй. У межах дыскусіі ўсё часцей абмяркоўваецца пытанне, як пры такім сцэнары будзе выглядаць беларуска-ўкраінскі кардон.**

Паміж Беларуссю і Украінай дзейнічае бязвізавы рэжым. Грамадзяне Беларусі праязджаюць ва Украіну пасля прад'яўлення нацыянальнага пашпарта. Аналагічнае правіла дзейнічае і для грамадзян Украіны, якія едуць у Беларусь. На першы погляд, дэбаты пра візы для расійцаў нас не тычацца. Аднак Беларусь і Расія маюць агульную міграцыйную сістэму, і па логіцы закрыццё расійска-ўкраінскай мяжы мусіць суправаджацца ўвядзеннем візаў для ўладальнікаў пашпартоў Сінявокай.

Дарэчы, агульны расійска-беларускі «чорны спіс» асобаў, якім забаронены ўезд на тэрыторыю Саюзнай дзяржавы, заўжды быў ва Украіне каталізатарам заклікаў увесці візы. Беларускія памежнікі вымушаныя не пускаць у краіну ўкраінцаў, якім забаронены ўезд на тэрыторыю Расіі. Ахвярамі гэтага спісу ў свой час сталі такія вядомыя ва Украіне публічныя персоны, як пісьменнік Сяргей Жадан або палітык Ірына Герашчанка. Кожная такая гісторыя правакавала ва ўкраінскай інтэрнэт-прасторы каментары кшталту: «Візавы рэжым з Беларуссю трэба было ўвесці адразу ж пасля таго, як па ўказанні ФСБ хітрыя вертухаі затрымалі Ірыну Герашчанку (або Сяргея Жадана)».

Так ці інакш, у парадыгме канфлікту Расіі і Украіны візавы рэжым паміж гэтымі краінамі выглядае непазбежным. Прычым новыя правілы можна чакаць ужо пад Новы год, калі Кіеў збіраецца ўвесці для расійцаў біяметрычны кантроль і сістэму папярэдняга інфармавання пра намер візіту. Масква дала зразумець, што патрабаванне наяўнасці біяметрычнага пашпарта для расійцаў (якога ў іх няма), якія едуць ва Украіну, — не што іншае, як элемент візавага рэжыму, на які яна адкажа сіметрычна.

У сувязі з гэтым, падаецца, трэба напружыцца і нам. Напрыклад, былы пасол Украіны ў Беларусі Раман Бяссмертны летась дапускаў, што ў выпадку скасавання Украінай бязвізавага рэжыму для Расіі давядзецца перагледзець аналагічныя пагадненні з Беларуссю і Казахстанам. «Расія, Беларусь і Казахстан завяршаюць працэдуру аб'яднання мяжы, мытнага і пагранічнага рэжыму. Гэты крок для Украіны будзе азначаць, што мы павінныя забяспечваць візавы рэжым для Казахстана і Беларусі. Гэта



**У парадыгме канфлікту Расіі і Украіны візавы рэжым паміж гэтымі краінамі выглядае непазбежным. Прычым новыя правілы можна чакаць ужо пад Новы год**

элементарныя рэчы», — сказаў тады Бяссмертны ў эфіры аднаго з украінскіх тэлеканалаў.

З іншага боку, як сведчыць сучасная гісторыя, тая дамова пра агульную расійска-беларускую візавую і мытную прасторы — не догма. Усім вядома, што ў 2008-м Мінск праігнараваў рашэнне Масквы ўвесці візы для грузінаў. У выніку паўстала фенаменальная сітуацыя, калі грузіны праз Украіну вольна траплялі ў Беларусь, каб адсюль без усялякіх расійскіх візаў, дзякуючы адсутнасці кантролю на мяжы з РФ, спакойна рушыць на Усход.

На першы погляд, Мінск у выпадку ўвядзення Масквой візаў для ўкраінцаў можа лёгка адкалоць такі ж фокус. Нелегальны транзіт украінцаў у Расію праз Беларусь яўна будзе падобны на грузінскі прэцэдэнт. У Расіі стала або сезонна працуюць каля трох-чатырох мільёнаў украінцаў. Калі ў некаторых з іх узнікне праблема з атрыманнем расійскай візы, яны могуць паспрабаваць пашукаць шчасце ў Беларусі.

Такі сцэнар наўрад ці выклікае захапленне ў нашых чыноўнікаў. У гэтым плане будзе дарэчы ўзгадаць інтэрв'ю газеце «Известия» супрацоўніка расійскага Інстытута краін СНД Уладзіміра Жарыхіна, у якім той намякнуў, што гэта Беларусь даўно патрабуе ад Масквы, каб для ўкраінцаў увялі візы. Па яго словах, «беларусы і казахі ціснуць на Расію з патрабаваннямі, каб для грамадзян Мытнага саюза былі адны ўмовы прысутнасці на расійскім рынку, а для астатніх — іншыя».

Інтрыгі ў рэбус візавых парадкаў з нашымі суседзямі дадаюць апошнія крокі расійскіх спецслужбаў, якія пачалі будаваць кантрольныя пункты ўздоўж беларускай мяжы. Сваю дзейнасць яны аргументуюць спасылкамі на вынікі сацыялагічных апытанняў расійцаў. Прыкладна 76 працэнтаў з іх нібыта настолькі расчараваліся геапалітычнымі фінтамі Аляксандра Лукашэнкі, што падтрымліваюць з'яўленне на мяжы з Беларуссю памежных слупоў. І тут жа кіраўнік расійскай дыпламатыі Сяргей Лаўроў абяцаў узаемнае прызнанне візаў Расіі і Беларусі...

Кіеўскі палітолаг **Юрый Палянін** так пракаментаваў перспектывы ўвядзення Украінай візавага рэжыму:

— Я б не раіў тым жа беларускім фанатам нашых курортаў загадзя бегчы і займаць чаргу ў візавы аддзел украінскага пасольства. Увосень ва Украіне стартуе падрыхтоўка да прэзідэнцкіх і, магчыма, датэрміновых парламенцкіх выбараў, калі топавымі ў грамадстве стануць іншыя тэмы. Пра візы будуць яўна менш казаць, у тым ліку таму, што 3-4 мільёны ўкраінцаў у Расіі — гэта прыкладна сем працэнтаў электарату, без уліку тых, хто атрымлівае адтуль грашовыя пераводы.

На гэты конт няма кансенсусу і ў адміністрацыі Парашэнкі. Напрыклад, Рыгор Тука, адзін з адказных за сітуацыю на акупаваных тэрыторыях, гучна патрабаваў зняць візавае пытанне з павесткі дня.

У дадатак, візавы рэжым з РФ выклікае шмат прававых непаразуменняў адносна фармату камунікацый з жыхарамі Крыма і тымі, хто пражывае ў некантраляваных рэгіёнах Данбаса. Тым жа жыхарам Данецка, каб трапіць у Расію, цяпер, па логіцы, давядзецца ехаць у консульства ў Адэсу або Харкаў, каб зрабіць там расійскую візу. Натуральна, ім будзе прасцей атрымаць расійскі пашпарт. Дзе ўзяць біяметрычныя пашпарты крымчанам, каб наведаць Украіну? Выкліканыя візамі новыя рэаліі яўна будуць незразумелыя і еўрапейскім куратарам «мінскага працэсу». Адным словам, візавыя клопаты пераносяцца, аднак расслабляцца нельга — імавернасць візавага рэжыму з Расіяй праз непрадказальнасць украінскага палітычнага працэсу застаецца вельмі высокай.




Фота www.nn.by

# Піва і палітыка

Алег НОВІКАЎ

**Ажыятаж вакол выявы мапы БНР на пляшках Лідскага бровара — не першы выпадак, калі піўная этыкетка правакуе буйныя палітычныя жарсці.**

Аматараў піва чамусьці цягне вывучаць змест этыкетак на пляшках і шукаць там нейкі падтэкст. Толькі так можна растлумачыць феномен таго, што піўныя этыкеткі трапляюць у фокус грамадскай дыскусіі.

Піўная этыкетка мае доўгую гісторыю. Яна з'явілася на свет у Заходняй Еўропе напрыканцы XIX стагоддзя. У той час на этыкетцы ўказваліся найменне прадукцыі, прозвішча ўладальніка бровара, геаграфічнае палажэнне завода і таварны знак вытворцы. Паступова этыкеткі пачалі рабіць больш прывабнымі, каб прыцягнуць спажыўца.

Праз стандартызацыю ў часы СССР доўгі час было абсалютна немагчыма вонкава адрозніць піва, выробленае ў розных гарадах. Сёння кожная піўная кампанія, якая сябе паважае, шукае свой стыль этыкетак. Часам гэты пошук выклікае грамадскую рэакцыю.

Па прыклады далёка хадзіць не трэба. Дасюль ва ўкраінскім сегменце сацсетак спрачаюцца з нагоды піва «Сіла», на этыкетцы якога намаляваная вежа Данецкага аэрапорта: за яго ў 2014-м вяліся жорсткія баі паміж жаўнерамі ВСУ і данецкімі сепаратыстамі. Некаторыя асуджаюць аўтараў ідэі: маўляў, нахабства — рабіць грошы на крывавай кропцы на мапе АТА. Пішуць, што этыкетка можа выклікаць боль у родных і сяброў загінулых. Тыя ж, каму дызайн спадабаўся, кажуць, што малюнак асацыюецца перш за ўсё з сілай і мужнасцю новага ўкраінскага войска, а сама вежа стала гераічным сімвалам. У прыватнасці, цытуюць аднаго з удзельнікаў баёў на Данбасе, які кажа: «Смешна, прыгожа зроблена. Трэба, каб яно прадавалася на тэрыторыі Расіі».

Падчас аналізу скандалаў вакол піўных этыкетак робіцца відавочна, што часцей за ўсё яны звязаныя з тэмай гендарнай роўнасці. Напрыклад, у 2012-м дэпутатку брытанскага парламента Кейт Грын абурыла этыкетка піва Top Totty: жанчына ў бікіні, з трусінымі вушамі і падносам з келіхамі піва. Дэпутатка неадкладна вынесла гэтае пытанне на агульнае абмеркаванне ў парламенце і запатрабавала забараніць прадаваць тое піва па ўсёй краіне. Кейт Грын назвала выяву на этыкетцы «абразлівай», бо тая, на яе думку, зневажае жанчын.

З той жа оперы скандал вакол піва Bud Light, на этыкетцы якога была напісана: «The perfect beer for removing «No» from your vocabulary for the night» («Цудоўнае піва, каб прыбраць слова «не» з вашага лексікону на гэтую ноч»). Скандал быў такі, што прымусіў умяшацца палітыкаў, якія абвінавацілі бровар у прапагандзе сексуальнага гвалту. У 2007-м марка бельгійскага піва Rubbel Sexy Lager была выключаная з продажу з прычыны сумнеўнай маркетынгавай стратэгіі. На этыкетцы была выяўленая дзяўчына ў «арандаваным» купальніку. Гэта значыць, што, пацёршы этыкетку, дзяўчыну можна было «распрануць».

Шмат каму не падабаецца, калі аўтары піва піярацца за кошт сакральных для грамадства тэмаў. У 2014-м кампанія «САН ИнБев», вытворца піва «Сібірская карона», падрыхтавала абмежаваную партыю напою, прысвечаную Вялікай Айчыннай вайне. На практыцы гэта азначала, што на піўных бляшанкі і бутэлькі змясцілі выявы герояў вайны і кароткі тэкст пра іх подзвігі. Рэакцыя грамадства была адмоўнай. Хапала і прыколаў на гэты конт: «Цяпер гісторыю дзеткі будуць вучыць па піўных бляшанках», — пісаў адзін блогер. «Пасля з'яўлення піва для факультатыўнага вывучэння гісторыі СССР чакаем гісторыю Расіі на туалетнай паперы», — жартаваў іншы.

Жарсці вакол праблемы мігрантаў адлюстраваліся ў кампаніі супраць піва Grenzzaun, што выробляюць у Баварыі. Шматлікія праваабаронцы і грамадскія актывісты Баварыі абвясцілі байкот піву, бо Grenzzaun перакладаецца як «памежны слуп», нібы заклікаючы тым самым закрыць межы Германіі ад бежанцаў. Хаця вытворцы піва і казалі, што імігранты тут ні пры чым, грамадскасць ім не верыць — таксама праз змест этыкеткі. На ёй змешчаны вельмі супярэчлівы слоган: «Піву патрэбная радзіма: абараняй, ахоўвай, сцеражы». Акрамя таго, праваабаронцы ўгледзелі крамолу і ў даце, да заканчэння якой трэба спажыць прадукт: 8 лістапада. Менавіта ў гэты дзень у 1938 годзе нацысты зладзілі шматлікія пагромы.

Не праходзяць міма этыкетак і вернікі, якія, падавалася б, менш за ўсё мусяць цікавіцца інфармацыяй на алкагольных напоях. У 2012-м перад бразільскім Мундыялем нямецкая кампанія Gaffel Koelsch выпусціла партыю піва са сцягамі камандаў, якія бяруць удзел у чэмпіянаце. Выява іранскага сцяга на этыкетцы піва выклікала абурэнне дэпутатаў парламента Ірана, якія ўбачылі ў гэтым абразу пачуццяў вернікаў-іранцаў. Па словах аднаго з дэпутатаў, надпіс на сцягу Ірана «Алах вялікі», размешчаны на этыкетцы піва, абражае рэлігійныя пачуцці вернікаў. Асабліва ўлічваючы тое, што мусульманам увогуле забаронена ўжываць алкаголь.

Трэба прызнаць, што рэзананс ад такіх скандалаў спрыяе продажам. Напрыклад, апісаны вышэй скандал вакол піва Top Totty пайшоў яму на карысць. Як паведамляюць прадстаўнікі Slater's Ales (вытворцы маркі), пасля скандалу ў парламенце продажы гэтага напою выраслі ўдвая. У гэтым плане можна не сумнявацца, што дызайнеры піўных этыкетак працягнуць і далей правакаваць грамадства.

Праўда, і само грамадства часцяком свядома шукае ў піўных этыкетках нейкую крамолу. Не так даўно венгерскі ўрад, што лабіруе інтарэсы адной піўной кампаніі, заклікаў забараніць у Венгрыі нідэрландскі Heineken, бо выяўленая на этыкетцы чырвоная зорка быццам падпадае пад закон пра забарону таталітарных камуністычных сімвалаў.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ



### Мухідзін Кабіры

Лідар забароненай у Таджыкістане «Партыі ісламскага адраджэння», які жыве ў Еўропе, здолеў упершыню ў гісторыі сабраць усю таджыкскую апазіцыю і нават прымусіць яе пачаць працаваць разам.

Праціўнікі аўтарытарнага рэжыму Эмамалі Рахмона сабраліся ў Дортмундзе (Германія) на канферэнцыю, прысвечаную 20-й гадавіне падпісання Пагаднення аб міры і нацыянальнай згодзе ў Таджыкістане, якое паставіла кропку ў грамадзянскай вайне 1992–1997 гадоў. У мерапрыемстве ўзялі ўдзел сябры трох найбуйнейшых груповак таджыкскай апазіцыі. Асноўны тэзіс, які прагучаў на канферэнцыі, быў пра тое, што Рахмон, адзін з падпісантаў гэтага пагаднення, падмануў апазіцыю, якая 20 гадоў таму пагадзілася скласці зброю ў абмен на гарантыі вольнай дзейнасці.

Нягледзячы на вераломства Рахмона, апазіцыянеры выступілі супраць вяртання да ўзброеных метадаў супраціву і жорстка асудзілі таджыкаў, якія ідуць ваяваць супраць Рахмона на баку ісламскіх фундаменталістаў. Афіцыйны Душанбэ аператыўна абвясціў «Партыю ісламскага адраджэння» пагрозай нацыянальнай бяспецы. На думку палітолагаў, таджыкская ўлада працягне практыку запытаў на вышук апазіцыянераў праз Інтэрпол. Але магчымыя і больш брутальныя правакацыі. Да прыкладу, пяць гадоў таму ў Маскве невядомымі быў здзейснены замах на аднаго таджыкскага апазіцыянера.

### Нікалас Мадура



Кіраўнік Венесуэлы даў старт выбарчай кампаніі ў Канстытуцыйную асамблею. Асамблея будзе сфармаваная пасля выбараў 30 ліпеня, каб вырашыць цяперашні палітычны крызіс. Цяпер заканадаўчая галіна, што кантралюецца апазіцыяй, канфліктуе з выканаўчымі органамі, якімі кіруюць чавісты. Закладнікам канфлікту стала ўся краіна, дзе інфляцыя і рост цэнаў б'юць сусветныя рэкорды.

Пакуль незразумела, ці дапаможа ідэя з Асамблеяй знайсці кампраміснуюбазу. Апазіцыя катэгарычна адмовілася ад удзелу ў выбарах у гэты орган, бо ўпэўненая ў фальсіфікацыі іх вынікаў. Не дапамагло нават тое, што Мадура перавёў з турмы пад хатні арышт Леапольда Лопеса, 46-гадовага лідара апазіцыі.

У адказ на пачатак выбарчай кампаніі ў Асамблею апазіцыя заявіла пра намер правесці серыю новых маніфестацый. Няма сумневаў, што пратэсты не абыйдуцца без чарговых сутычак з паліцыяй. За апошнія тры месяцы ў краіне падчас вулічных боек загінула сто чалавек.

### Халіфа Белкасім Хафтар



Фельдмаршала, камандуючага Лівійскай нацыянальнай арміяй у прэсе пачалі называць будучым пераможцам у грамадзянскай вайне ў Лівіі. Гэты канфлікт цягнецца з 2011 года, пасля падзення рэжыму Кадафі.

Падставай лічыць Халіфа Хафтара трыумфатарам стала навіна пра захоп яго фармаваннямі Бенгазі. Бенгазі — другі па колькасці насельніцтва горад у краіне, цэнтр здабычы нафты плюс вельмі важны стратэгічны пункт. Поспехі Хафтара выклікалі шмат дэбатаў пра палітычнае аблічча лівійскага вайскоўца. Канчатковай высновы, праўда, палітолагі не зрабілі, бо фельдмаршал мае вельмі стракатую біяграфію: з аднаго боку, актыўна супрацоўнічае з Масквой, дзе, дарэчы, вучыўся. З іншага, няма сумневаў, што ў часы канфлікту з Кадафі і эміграцыі ў ЗША ён меў кантакты з ЦРУ і заходнімі палітыкамі.

У любым выпадку, пакуль вайна ў Лівіі працягваецца. Для канчатковай перамогі Хафтару трэба ўзяць пад кантроль яшчэ прыкладна 25 працэнтаў тэрыторыі краіны. Для гэтага спатрэбіцца разагнаць шматлікія банды радыкальных ісламістаў, мясцовай самаабароны і Урад нацыянальнага адзінства, які знаходзіцца ў Трыпалі.

Самае цікавае, што ААН афіцыйна прызнае легітымнай лівійскай уладай якраз урад у Трыпалі. Як будзе вырашанае пытанне міжнароднай легітымацыі рэжыму Хафтара, пакуль незразумела.

# Манеты «панскага» часу

Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**Падчас працы над кнігай «Мяжа ля Заслаўя: 1921–1941» я шмат ездзіў па былым памежжы і даследаваў месцы, дзе ў міжваеннае дваццацігоддзе знаходзіліся савецкія заставы ці польскія стражніцы. Падчас адной з такіх вандровак я знайшоў 50 грошаў 1938 года.**

Дваццаць міжваенных гадоў гэтымі грашыма карысталіся жыхары Заходняй Беларусі. Акрамя гэтага, у гарнізонах і частках Войска Польскага ў 1920–1930-я гады ўжываліся спецыяльныя крэдытныя маркі, якія сёння з'яўляюцца нумізматычнымі рарытэтамі.

## Ад маркі да злотага

Пасля заканчэння польска-бальшавіцкай вайны эканоміка Другой Рэчы Паспалітай была ў кепскім стане. У красавіку 1924 года быў створаны галоўны фінансавы інстытут Польшчы — Банк Польскі, які па форме ўласнасці з'яўляўся акцыянернай кампаніяй. Такі статус галоўны банк краіны атрымаў дзеля таго, каб пазбегнуць уплыву на яго працу дзяржавы і палітычных колаў. Яшчэ раней, у студзені, каб стрымаць гіперінфляцыю, улады правялі грашовую інтэрвенцыю. Тады ў эканоміку ўлілася каля 2,5 мільёна долараў. Гэта дазволіла стабілізаваць курс тагачаснай польскай валюты — маркі. За 1 долар у той момант давалі каля 9 тысяч марак. Нарэшце 28 красавіка 1924 года ў грашовы зварот быў уведзены новы від валюты — польскі злоты. Тады яго курс быў прыроўнены да курсу швейцарскага франка, а долар каштаваў 5,18 злотага. Былую валюту — маркі — абменьвалі па курсе 1,8 мільёна за 1 злоты.

Разам з папяровымі грашыма ў кішэнях людзей з'явіліся і манеты. Наміналы 1, 2, 5 грошаў былі выбіты з бронзы, манеты ў 10, 20 і 50 грошаў — з нікелю. Першапачаткова планавалася, што 1, 2 і 5 злотых будуць са срэбра, а наміналы 10–100 злотых — з золата. Аднак эканамічныя цяжкасці прывялі да таго, што ў 1929 годзе манету ў 1 злоты пачалі выпускаць з нікелю.



2 злотых 15 батальёна КАП з Людвікава

З золатам таксама выйшлі праблемы. У 1925 годзе планавалася выпусціць манеты ў 10 і 20 злотых (у золаце). На іх была выява караля Баляслава Адважнага, бо выхад манеты прысвячаўся 900-годдзю каранацыі манарха. Залатая манета ў 20 злотых, эскіз якой распрацавала мастачка Зоф'я Тшцінская-Каменская, была па курсе роўнай 20 швейцарскім франкам. Але з-за таго, што злоты не мог утрымаць такі высокі курс, гэтыя манеты (10 і 20 залатых злотых) так і не былі ўведзеныя ў абарачэнне.

## Срэбра ў кішэнях

У 1928 годзе ў міжваеннай Польшчы з'явілася пяцізлотавая срэбная манета з выявай багіні Нікі, яшчэ праз два гады ў гонар 100-годдзя Лістападаўскага паўстання 1830 года была адчаканеная манета такога ж наміналу і металу. У 1932 годзе ў гаманцах у тым ліку і жыхароў Заходняй Беларусі з'явіліся срэбныя манеты наміналам 2, 5, 10 злотых з выявай жанчыны, а праз два гады на срэбных грошах узнік барэльеф бацькі Другой Рэчы Паспалітай — маршала Юзафа Пілсудскага.

У 1933 годзе ў гонар 250-годдзя караля польскага і вялікага князя літоўскага Яна III Сабескага была адчаканеная срэбная манета ў 10 злотых. У тым жа годзе ў памяць 70-годдзя смерці «дыктатара» Студзеньскага паўстання 1863 года Рамуальда Траўгута таксама былі выпушчаны срэбныя 10 злотых. У 1935 годзе польскі парусгнік «Дар Памор'я» здзейсніў кругасветнае падарожжа, і ўжо ў наступным годзе яго выява аздобіла польскія манеты ў 2, 5 і 10 злотых.

Аднак акрамя гэтых грошай у польскіх вайскоўцаў у міжваенны час былі «свае».

## Крэдытныя маркі з Заходняй Беларусі

У свой час мяне вельмі здзівіляла польскае словазлучэнне «kasyno oficerskie». Што ж гэта за казіно? Пазней, калі пачаў глыбей даследаваць гісторыю польскага войска ў Віленскім, Навагрудскім, Палескім і Беластоцкім ваяводствах, зразумеў, што гутарка ідзе пра звычайны клуб, які, аднак, мог аб'ядноўваць і сталовую, і краму, і бібліятэку. У



20 злотых 1925 г. з золата

гарнізонах і частках Войска Польскага дзейнічалі кааператывы (Spółdzielni wojskowe), пайшчыкамі якіх былі афіцэры, падафіцэры і, у некаторых выпадках, радавыя. Кааператыўныя крамы забяспечвалі пайшчыкаў неабходнымі таварамі і паслугамі. А «гандаль» ажыццяўляўся не за наяўныя грошы, а за крэдытныя маркі, якія выпускала амаль кожная польская вайсковая частка.

Гэтыя «грошы» нагадвалі звычайныя злотыя, але вырабляліся з больш танных матэрыялаў (алюмінію, жалеза, цынку, латуні, радзей — з медзі і нікелю). На іх чаканіліся назва і нумар вайсковай часткі, а таксама месца дыслакацыі і год. На адваротным баку быў намінал. Звычайна гаворка ішла пра 10, 20, 50 грошаў (з цынку), 1 (з алюмінію), 2, 5 (з медзі ці нікелю) злотых. Часамі на такіх «грошах» былі надчаканкі «КО» — «kasyno oficerskie», ці «КР» — «kasyno podoficerskie». На некаторых «манетах» былі выявы Тадэвуша Касцюшкі, Юзафа Пілсудскага (напрыклад, кааператыў 15-га батальёна КАП у Людвікаве) ці караля Стэфана Баторыя. На некаторых марках выбіваліся зашыфраваныя назвы кааператываў «Zacisze», «Mrozy», «Sybirak» (Берасце-на-Бугу), «Żagiel».

Рэдка, але здараліся выпадкі, калі маркі аднаго вайсковага



Тыя самыя 50 грошаў (справа), выпадкова знойдзеныя побач з польскай стражніцай

**Калі манет даваеннай Польшчы захавалася даволі шмат і кошт на іх не вельмі высокі, то крэдытныя маркі польскіх вайсковых кааператываў выклікаюць вялікую зацікаўленасць у нумізматаў**

кааператыву выкарыстоўваліся вайскоўцамі іншага гарнізона. Так, «манетамі» 78-га пяхотнага палка з Баранавічаў карысталіся і байцы 1-га і 4-га дывізіёнаў 20-га палка лёгкай артылерыі.



20 злотых 1925 г. з золата

## Кошты, рарытэты, падробкі...

Большасць крэдытных марак чаканілася ў Майстэрні гравёра Браніслава Грабскага ў Лодзі. Як адзначае беларускі даследчык Валер Калясінскі, над макетамі штэмпеляў там працавалі мастакі Марыян Кенджэнскі, Пётр Абрамоўскі і Юзаф Рышард Вадзыньскі. Даследчыкі-нумізматы налічылі, што ў міжваенны час было праведзена 11 тыпаў эмісій крэдытных марак. У 1927 годзе камплект «карпаратыўных грошай» для аднаго з вайсковых кааператываў каштаваў каля 600 злотых.

Варта адзначыць, што напярэдадні Другой сусветнай вайны з крэдытных марак зніклі нумары вайсковых адзінак, у якіх яны выкарыстоўваліся. Звязана гэта было з жаданнем польскага вайсковага камандавання захаваць службовую таямніцу і не даць замежным выведнікам лёгка атрымаць важную інфармацыю.

У прыватнай калекцыі аўтара ёсць некалькі такіх крэдытных марак. Перш за ўсё, гутарка ідзе пра «жэтоны» батальёна Корпуса аховы памежжа «Падсвілле». Маркі наміналам у 10, 20 і 50 грошаў былі знойдзены там, дзе ў 1930-я гады дыслакаваліся польскія памежнікі. Нагадаю, што гэтая вайсковая частка была сфармавана ў 1924 годзе і размяшчалася ў межах Віленскага ваяводства. Жаўнеры з «Падсвілля» ахоўвалі амаль 80 кіламетраў польска-савецкай мяжы. У канцы 1930-х гадоў гэтая частка выконвала адміністратыўныя функцыі. У жніўні 1939 года батальён «Падсвілле» ўвайшоў у склад 3-га палка пяхоты КАП, які ў верасні ўдзельнічаў у баях з нацыстамі на Сувальшчыне. У сваю чаргу, рэзервовыя часткі брали ўдзел у баях з Чырвонай Арміяй, якая перайшла савецка-польскую мяжу раніцай 1939 года.

Яшчэ некалькі крэдытных марак у маёй калекцыі паходзяць з кааператыву 25-га палка уланаў велькапольскіх з Пружан. Да Другой сусветнай вайны яго часткі дыслакаваліся на тэрыторыі Заходняй Беларусі, а ў верасні гэтае падраздзяленне змагалася з ворагам у складзе Навагрудскай брыгады кавалерыі.

Калі манет даваеннай Польшчы захавалася даволі шмат і кошт на іх не вельмі высокі (за выключэннем «срэбра»), то крэдытныя маркі польскіх вайсковых кааператываў сёння выклікаюць вялікую зацікаўленасць у айчынных і замежных нумізматаў. Сярэдні кошт такой крэдытнай маркі даходзіць да 100 беларускіх рублёў, аднак вядомы выпадак (2011 г.), калі за 1 злоты з афіцэрскай сталоўкі 17 палка лёгкай артылерыі з Гнезна калекцыянер выклаў 3400 злотых (больш за 800 долараў). Зразумела, што з кожным днём кошты на гэтыя артэфакты павышаюцца. Як расказваюць калекцыянеры, у канцы 1970-х у Лідзе жыў чалавек, які рабіў выдатныя копіі крэдытных марак 77-га лідскага пяхотнага палка, на якіх была выява двух мядзведзяў, што стаяць на задніх лапах. Тады фальшывыя маркі з Беларусі «дапоўнілі» калекцыі не аднаго нумізмата.



Манеты міжваеннай Польшчы



Срэбныя манеты Другой Рэчы Паспалітай

Ігар ІВАНОЎ

# Таямніцы братоў Бельскіх

**Тэма яўрэйскага партызанскага атрада братоў Бельскіх стала вельмі папулярнай пасля выхаду галівудскай стужкі «Выклік», дзе ролю галоўнага героя — Тувіі Бельскага — выканаў Дэніэл Крэйг. Аднак гісторыя партызанскага атрада братоў Бельскіх і да сёння мае мноства «падводных камянёў» і цёмных плямаў, якія ўсё часцей прыцягваюць увагу.**



Праблема ўзаемаадносін яўрэйскіх партызанаў з мясцовым насельніцтвам — прыдатная тэма для спекуляцый, улічваючы колькасць супрацьпастаўленых адзін аднаму палюсаў, якія перапляталі заходнебеларускі край у гады вайны.

Трэба адзначыць, што, за выключэннем успамінаў, звестак па гэтай тэме няшмат. Вельмі няпроста даць ацэнку дзейнасці яўрэйскага партызанскага атрада на ўсім адрэзку яго існавання. У сучасных польскіх СМІ дамінуе негатыўная ацэнка Бельскіх і іх ваяроў: апошніх вінавацяць у гвалце і жорсткім стаўленні да мясцовага польскага насельніцтва. У сваю чаргу, у кнігах Нехамы Тэк «Выклік. Партызаны Бельскія» і Пітэра Дафі, які сабраў архіўныя матэрыялы і дакументальныя звесткі ў ЗША, Ізраілі і Беларусі, апісана шмат негатыву ў стаўленні насельніцтва да яўрэяў-партызанаў.

## Да вайны і ў пачатку

Карані непрыязнасці да яўрэяў трэба шукаць, напэўна, яшчэ да стварэння партызанскага атраду і ўвогуле да вайны.

У насельніцтва Заходняй Беларусі стаўленне да яўрэяў вельмі часта было адмоўным. Кіруючыя колы Польскай дзяржавы і каталіцкі касцёл правакавалі польска-яўрэйскія супярэчнасці з-за шырокага ўдзелу яўрэяў у рэвалюцыйнай дзейнасці партый і сіл левага кірунку, у прыватнасці КПП, КПЗБ і іншых. Пасля далучэння Заходняй Беларусі да БССР у верасні 1939 года эканамічныя цяжкасці выклікалі незадаволенасць сялянства, якое вінавацілa ва ўсіх бедах, зразумела, яўрэяў.

У дакладных запісках, складзеных камандаваннем Чырвонай Арміі ў 1939–1940 гадах па выніках палітвыведкі, адзначалася варожасць паміж палякамі і яўрэямі. У перыяд кампаніі па выбарах Вярхоўнага Савета СССР і БССР польскае насельніцтва заяўляла, што «па законе божым за яўрэяў, вылучаных кандыдатамі ў дэпутаты, галасаваць нельга».

З прыходам фашыстаў яўрэі апынуліся ўвогуле ў безвыходнай сітуацыі. Пасля ўсталявання акупацыйнай адміністрацыі, арганізацыі гета і першых расстрэлаў у ліпені-снежні 1941 года браты Тувія, Зусь і Асаэль Бельскія гэта адчулі на сабе, калі, не без дапамогі мясцовых жыхароў, былі арыштаваныя і забітыя іх бацькі, два малодшыя браты, сястра, жонка і нованароджаная дачка Зуся.

Яшчэ адзін, малодшы, брат Арон паспеў уцячы ў лес. Дачку сястры атрымалася аддаць на ўдачарэнне ў польскую сям'ю, астатніх размясцілі ў знаёмых у розных вёсках Навагрудскага раёна. Некаторыя людзі пасля папаліся за гэта жыццём.

У такіх абставінах канфрантацыя «свой — чужы» ўкаранялася ў свядомасць людзей, кожная хваліна існавання якіх суправаджалася нечалавечым напружаннем і страхам за лёс сваякоў, блізкіх і за ўласнае жыццё.

## Атрад: пачатак

Першую зіму браты Бельскія перажылі, начуючы ў адрынах у жыхароў навакольных вёсак, час ад часу сустракаючыся і абмяркоўваючы становішча. Тувію Бельскаму ўдалося пралезці ў Лідскае гета і вывесці адтуль жонку Соню і яе сям'ю. Увесну 1942 года ў іх атрымалася перабрацца ў Бачковіцкі лес, дзе быў арганізаваны першы невялікі лагер для дваццаці самых блізкіх сваякоў, якіх Бельскім удалося адшукаць. Фактычна, у перыяд з ліпеня 1941-га па вясну 1942 года браты збіралі разам як мага больш блізкіх сваякоў і сяброў, каб павялічыць шанцы на выжыванне, адшукаць прыдатнае месца, схавацца ад паліцыі і нямецкіх карнікаў.

Насельніцтва ставілася да Бельскіх па-рознаму: знаходзіліся людзі, якія дакладалі пра групу паліцэйскім старастам. Аднак былі і тыя, хто папярэджваў братоў пра небяспеку.

Першыя некалькі вінтовак браты прыдбалі разам з партызанамі, якімі камандаваў Уладзімір Громаў. Атрад складаўся галоўным чынам з чырвонаармейцаў-акружэнцаў і боепрыпасаў практычна не меў. Браты Бельскія паказалі партызанам хату паліцая Кузьмінскага, у якога захоўваўся невялікі запас боепрыпасаў. Бельскія разам з некалькімі партызанамі схапілі Кузьмінскага вечарам, калі той з сям'ёй збіраўся да вячэры. Яны забралі ўсю зброю ў хаце, а самога Кузьмінскага адвялі ў лес, да астатніх партызан Громава, дзе пакаралі смерцю.

Пасля другога яўрэйскага пагрому ў Навагрудку напачатку жніўня 1942 года да Бельскіх далучылася група, якую прывёў Канстанцін Казлоўскі — беларус, сябра Тувіі Бельскага з даўэнных часоў. Казлоўскі шчыра спачуваў яўрэям і гатовы быў дапамагаць, рызыкуючы пры гэтым пакінуць сіротамі пяцярых дзяцей. Больш за тое, ён прапанаваў сваю дапамогу не толькі Бельскім, але і ўсім тым, хто наважыцца бегчы з гета.

## Выжыванне

Цалкам зразумела, чаму Тувія Бельскі абвясціў галоўным заданнем атрада выратаванне яўрэяў.

Усе баяздольныя пад кіраўніцтвам Пейсаха Фрыдберга былі пасланы ў Навагрудак, каб арганізаваць першыя буйныя ўцёкі вязняў з гета. Да канца жніўня 1942 года атрад вырас да 80 чалавек — менавіта за кошт тых яўрэяў, якія здолелі ўцячы.

Адной з галоўных праблем для атрада, зразумела, была ежа, якой катастрафічна не хапала. Сяляне дзяліліся ёю вельмі неахвотна, часта Бельскім даводзілася адбіраць ежу сілай, што, вядома, абвастрала адносіны з мясцовым насельніцтвам. Да традыцыйнага антаганізму «сяляне — партызаны» дамешваліся нацыянальныя супярэчнасці. Мелі месца выпадкі даносу мясцовымі жыхарамі пра беглых яўрэяў і пра месцазнаходжанне атрада Бельскіх паліцэйскім старастам і нямецкай адміністрацыі.

З надыходам халадоў браты Бельскія вырашылі арганізаваць дзве невялікія зімовыя базы непадалёк ад Станкевічаў — у лясах Ліпчанскай пушчы. Пасля нямецкай блакады ў снежні 1942 года атрад быў вымушаны адступіць у Храпенеўскія лясы. Па дарозе людзям было вельмі цяжка: даводзілася спаць практычна на голай зямлі, некаторыя ваяры, якія стаміліся ад цяжкасцяў, звязаных з забеспячэннем жанчын, дзяцей і старых, былі на мяжы псіхалагічнага зрыву. Праз тыдзень дзве групы былі пасланы на разведку да пакінутых зямлянак у Пералазах і Забелаве. Астатняя частка атрада засталася на новым месцы. Дванаццаць чалавек знайшлі прыстанак непадалёк ад вёскі Храпенева, у дзвюх сялянскіх хатах. Апоўдні 5 студзеня 1943 года мясцовыя паліцаі і нямецкія салдаты ў маскхалатах падышлі да вёскі. У выніку бою загінулі 9 чалавек з атрада Бельскіх, у тым ліку жонка Тувіі Бельскага — Соня.

Найважнейшай праблемай па-ранейшаму была здабыча харчу, які партызанам даводзілася часам адбіраць у сялян, запалохваючы іх, што ў сваю чаргу правакавала сялян на даносы ў паліцыю.

Падчас адной з экспедыцый па прадукты невялікая група скіравалася ў вёску Добрае Поле, дзе ў двух чальцоў групы — Абрама і Рубена Палонскіх — былі знаёмыя: сям'я Белавусаў. Тыя жылі ў вялікай хаце разам з сем'ямі — агулам васямнаццаць чалавек. Белавусы прынялі партызанаў, але Палонскія не ведалі, што сын Уладзіміра Белавуса — Мікалай — быў у Навагрудку паліцаем і запляміў сябе ўдзелам у шматлікіх расправах над яўрэямі. Стомленыя пасля паходу партызаны ўладкаваліся ў цёплай хаце і неўзабаве заснулі. Тады сын Уладзіміра Белавуса Павел пабег у Навагрудак, знайшоў Мікалая і расказаў пра яўрэяў, якія размясціліся ў Добрым Полі. Праз гадзіну матарызаваная калона, у якой было каля пяцідзесяці паліцэйскіх, увайшла ў вёску. Партызаны паспрабавалі збегчы, аднак не паспелі — дзевяць чалавек з дзесяці былі забітыя шквальным агнём.

Пра гэта ў лагеры Бельскіх даведаліся толькі праз некалькі тыдняў. Асаэль Бельскі сабраў групу з трыццаці чалавек і прыбыў у вёску вечарам у пятніцу 23 красавіка 1943 года. Партызаны атачылі хату Белавусаў, уварваліся ў яе і забілі ўсіх, каго знайшлі, а пасля падпалілі дом. У той дзень былі забіты дзесяць чалавек з сям'і Белавусаў.

## Вымушаная жорсткасць

Як успамінаў сам Тувія Бельскі, яны былі бязлітасныя да здраднікаў і паліцэйскіх. Ім даводзілася запалохваць насельніцтва навакольных вёсак — тыя павінны былі разумець, што страціць жыццё, калі данясуць немцам на «сямейны атрад».

Складана сказаць, наколькі апраўданай была такая тактыка. Матывы, якімі кіраваліся тыя з ліку мірнага насельніцтва, хто супрацоўнічаў з акупацыйнымі ўладамі, напэўна, не былі заснаваны на нянавісці да яўрэяў як да народа. Шмат на што прыходзілася ісці пад страхам смерці.

Іншая справа, як уяўляліся іх учынкі яўрэям, якія за некалькі гадоў германскай акупацыі былі даведзены да роспачы.

У сваю чаргу, немцы жорстка распраўляліся з тымі, хто быў абвінавачаны ў дапамозе яўрэям. Зімой 1943 года фашысты забілі мужа і жонку Баброўскіх за арганізацыю ўцёкаў вязняў гета. Іх расстралялі, хату спалілі, а шасцярых дзяцей адправілі ў канцэнтрацыйны лагер. Тады ж быў забіты і малодшы брат Кастуся Казлоўскага — Іван. Каб дапамагаць яўрэям бегчы з гета, ён уладкаваўся ў паліцыю Навагрудка, быў сувязным паміж гета і братамі Бельскімі.

**Працяг у наступным нумары**



Партызаны ў Налібоцкай пушчы

# «Жыў беларус і будзе жыць»

## Прысвячаецца 135-годдзю з дня нараджэння Янкі Купалы



**Па гарызанталі:** 1. «Раз абселі беларуса\\ Маскалі ды Ляхі,\\ І давай яму сваяцтва\\ Тыкаці з-пад пахі». З сатырычнага верша Янкі Купалы «Сваякі». 4. ... або Луцэвічы, Лазаравічы. Назвы былога засценка на Уздзеншчыне, дзе нарадзіўся бацька паэта — Дамінік Луцэвіч. 7. У старажытнагрэчаскай міфалогіі — бог кахання. 12. Кармавая частка верхняй палубы судна. 13. Рамка. 14. «Занімай, Беларусь, маладая мая,\\ Свой пачэсны пасад між народамі!». З верша «... Беларусь». 16. Добры вынік. 17. Дзірачка ў іголцы. 19. Сініца, якая жыве па берагах вадаёмаў. 20. «... мая, народу скарб нятленны,\\ ... мая, ўваскросні і жыві». З верша Л.Геніюш "Мова мая". 22. «Не пагасіць вам праўды яснай:\\ Жыў ... і будзе жыць!». З верша Янкі Купалы «Ворагам беларушчыны». 24. «На купалле, на святое\\ Рві, матуля, ... тое,\\ Што у нас папараць завецца!». З верша Янкі Купалы «На купалле». 26. Асадак на дне вадаёмаў. 28. «Спі, не ведай трывогі,\\ Надыдзе часінка, — \\ На свае ўстанеш ...,\\ Мая ты дзяўчынка». З верша «Алеся». 29. Вылучэнне каго-небудзь з асяроддзя. 30. Прагулка з мэтай адпачынку.

**Па вертыкалі:** 1. Старадаўняя французская манета. 2. Урач — спецыяліст па афтальмалогіі. 3. «Северо-Западный ...». Мінская газета, дзе ў 1905 годзе быў надрукаваны верш пад псеўданімам «Янка Купала». Гэта было першае выступленне паэта ў друку. 5. «Краскамі ўсміхаецца ўся сенажаць,\\ Гараць урочнікі, румянкі і званкі». З паэмы Янкі Купалы «... і я». 6. ... куму пазнаў і на піва пазваў (прыказка). 8. Гарадскі пасёлак на Маладзечаншчыне, дзе 12 ліпеня 1882 года, у касцёле Св. Тройцы, быў хрышчаны хлопчык Ясь (Ян), будучы выдатны беларускі паэт Янка Купала. 9. Тое, што і снеданне. 10. Старажытнаегіпецкі бог сонца. 11. «Загнанае ... ты, роднае ...!\\ Грымні ж над радзімай зямлёй!». З верша Янкі Купалы «Роднае ...». 15. Гарадскі пасёлак у Салігорскім раёне. 18. Захапленне. 21. Мужыку ..., што святому рай (прыказка). 23. «Паэзія Купалы — гэта квітнеючы і чароўны ..., дзе сабраны водар беларускай зямлі». Якуб Колас. 24. Будзе добра, як ... міне (прыказка). 25. Шостая нота музычнай гамы. 27. «Сёння купала — заўтра ... ,\\ Узыдзі, узыдзі сонейка, зайграй нам». З купальскай песні.

**Адказы на крыжаванку «Не цар з´яўляецца законам...» (НЧ, №15 ад 29 чэрвеня):**

**Па гарызанталі:** 2. Смутак. 5. Ахвотнік. 10. Чалавек. 12. Тальк. 14. Закон. 15. Касцы. 16. Два. 17. Тры. 18. Лямус. 20. Улада. 24. Кузня. 25. Партрэт. 27. Апеляцыя. 28. Кароль.

**Па вертыкалі:** 1. Статак. 3. Мя. 4. Адам. 6. Хлеб. 7. Квінта. 8. Пан. 9. Пластыкат. 11. Акадэмізм. 13. Крыніца. 14. Завулак. 17. Трубка. 19. Святкі. 21. Часы. 22. Сто. 23. Тэма. 26. Іл.

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17268-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/190 ад 30.04.2004. Замова №659

Падпісана да друку 14.07.2017. 8.00. Наклад 3000 асобнікаў. Кошт свабодны.